● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

**8** жніўня 1998 г. субота, № 155 (23506)



# ЗВЯЗДА


## ЗДАРЭННІ

### У рабочым кабінеце — валюта

Супрацоўнікамі КДБ і Пракуратуры Рэспублікі Беларусь затрыманы адзін з адказных работнікаў аднаго са сталічных райаддзелаў унутраных спраў падпалкоўнік міліцыі. Пры вобыску ў яго рабочым кабінеце выяўлена вялікая колькасць замежнай валюты.

Вядзецца следства.

**Мікалай АЛЯКСАНДРАЎ.**

### У Мінску ўзарвана машына начальніка службы бяспекі «Джэм-Банка»

**Пакуль невядома, хацелі злачынцы толькі напалохаць начальніка службы бяспекі сталічнага «Джэм-Банка» або дапусцілі памылку. Як бы там ні было, але выбух раздаўся ў той час, калі служачы знаходзіўся далёка ад месца здарэння і не пацярпеў. Магчыма, усе адказы накошт чарговага тэрарыстычнага акта зможа даць следства.**

Як удалося ўдакладніць карэспандэнту газеты ў прэсслужбе Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама, выбух раздаўся ў дваццаць хвілін дзявятай раніцы. Сведкам здарэння стаў вартаўнік праектнага прадпрыемства «Белгіпрадор», які і патэлефанаваў у міліцыю. Машына начальніка службы бяспекі «Джэм-Банка» знаходзілася на стаянцы службовага аўтатранспарту. Выбухам разнесла заднюю частку «Нісана-Цірана». Спецыялістамі Міністэрства ўнутраных спраў, якія выехалі на стаянку, устаноўлена, што прычынай выбуху стаў зарад брызантнага выбуховага рэчыва. На жаль, нейкая іншая інфармацыя накошт гэтага здарэння адсутнічае.

**Ігар ГРЫШЫН.**







**Ля старога тракта** *(вёска Слабодка Браслаўскага раёна).* Фота Васіля ЗЯНЬКО.

## ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Афрыканская эпапея беларускіх верталётчыкаў шчасліва скончылася. ЯНЫ — ДОМА!

**Прайшоўшы праз шматлікія пакуты, зведаўшы гора і выпрабаванні на чужбіне, нашы суайчыннікі, члены экіпажа верталётчыкаў, нарэшце, вярнуліся ў родную Беларусь.**

**У пятніцу раніцай мы звязаліся з загадчыкам консульскага аддзела Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі Мікалаем ПЯТЭНКАМ.**

**— Мікалай Аляксандравіч, спадзяёмся, усё скончылася добра — вы сустрэлі іх?..**

— Так, яны прыляцелі ў Маскву з Гвінеі недзе каля 7 гадзін раніцы ў пятніцу. Заехалі ў наша пасольства, мы накармілі іх, далі магчымасць патэлефанаваць родным, сказаць, што яны вярнуліся. Потым паехалі на вакзал, узялі ім білеты і ў 10.30 на цягніку яны паехалі дамоў — трох чалавекі з Беларусі. Расіянін Сапожнікаў накіраваўся, відаць, у Яраслаўль.

**— Як яны сябе адчуваюць, які ў іх быў настрой?**

— Зразумела, рады, што нарэшце вярнуліся, вырваліся з Афрыкі. На неграў ва ўсіх зараз алергія. Крыху баяліся — што з імі тут будзе, дома. Яны ж добра разумеюць, колькі клопатаў прынеслі ўсім з-за сваіх прыгодаў. Запыталіся ў мяне: мо нас пад канвоем павязуць? Я напачатку паводзіў сябе з імі падкрэслена сурова, кажу, вядома пад канвоем, я — ваш канвой. Але потым супакоіў: спяшайцеся дамоў, ніхто вас затрымліваць не будзе.

**— Здаровыя?**

— Адзін з трох перахварэў на малярыю, у аднаго зусім няма дакументаў — засталіся там. Зразумела, усе без грошай. Але жонкі, калі прыязджалі ў Маскву, пакінулі ім на дарогу нешта. Уладзімір Чэпель (пра якога мы нічога не змаглі даведацца. — С. Р.) з Полацка, здаецца, у яго няма сям'і, дык ён за кошт Кулькова і Мартыновіча будзе ў дарозе «трымацца».

Адразу пасля гэтага мы патэлефанавалі ў Міністэрства замежных спраў Беларусі. Другі сакратар консульскага ўпраўлення Валерый Цітавец першай справай ...падзякаваў за інфармацыю аб хуткім прыбыцці верталётчыкаў у Беларусь. Высветлілася, што з Масквы звестак накошт гэтага яшчэ не паступала. Мы звязаліся з Мікалаем Пятэнкам адразу пасля яго вяртання з вакзала, дзе ён праводзіў экіпаж.

**— Валерый Васільевіч, нарэшце ўсё скончылася...**

— Так, мы сваю справу выканалі. Літаральна заўтра здаю ўсе паперы ў архіў.

**— Верталётчыкі вяртаюцца без грошай. Зразумела, зараз самае галоўнае, што яны ўвогуле змаглі выбрацца з Афрыкі, але, атрымліваецца, засталіся ні з чым... У свой час вы гаварылі, што накіравалі ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі запыт адносна кампаніі, дзякуючы якой пілоты і апынуліся ў С'ера-Леоне, і якая потым катэгарычна адмовілася ад свайго ўдзелу ў гэтай справе. Ці ёсць нейкія вынікі? І яшчэ, як вы думаеце, ці маюць шанц верталётчыкі спагнаць грошы з гэтай кампаніі?**

— Адказ з КДБ быў. Сутнасць яго такая: беларуская авіякампанія да гэтай справы дачынення не мае. А грошы...

**Заканчэнне на 5-й стар.**

## З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### Кацярына ХАДАТОВІЧ марыць яшчэ раз выйграць алімпійскае «золата»

*Заўтра ў сям'і алімпійскай чэмпіёнкі Кацярыны Хадатовіч невялічкае свята — яе дачушцы Аляксандры «цюкне» тры месяцы. Чым не нагода задаць парачку пытанняў «за жыццё» вядомай беларускай вясляркі?*



...Адразу было чутна, што за час знаходжання ў Беларусі муж Кацярыны, грамадзянін Германіі Вільфрэд стаў для нас сваім чалавекам. Падняўшы тэлефонную трубку, ён павітаўся на беларускай мове, а на маё «дзякую» (за тое, што Кацю паклікаў) інтэлігентна мовіў «няма за што».

**— Каця, ад працы вас не адарвалі?**

— Толькі-толькі нашу будучую імянінніцу спавіваць перастала.

**— Падарунак ужо купілі?**

— А для яе самы лепшы падарунак зараз — сухія пялёнкі. Заўтра вось у вёску, дадому збіраемся — я, Вільфрэд і Сашка — там і адзначым дзень нараджэння.

**— Вільфрэд да вёскі ўжо прызвычаіўся?**

— Да вёскі прызвычаіўся — з граблямі яму спраўляцца цяжэй. Нядаўна пайшлі сена зграбаць, дык такі мазоль на руцэ нацёр, што аж жах! Хоць, як кажуць, выпадак не смяротны... А яшчэ камароў вельмі не любіць (а ўрэшце, хто іх любіць?) — іх жа гэтым летам хмары лётаюць.

**— Ваш муж з Патсдама?**

— Так, мае там сваю фірму — у арэнду машыны здаюць. Там жа, у Патсдаме, плануем сабе і кватэру на будучыню падшукаць.

**— Значыцца, Саша будзе вучыцца ў Германіі?**

— Пакуль вырашылі, што так. Праўда, грамадзянства ў яе да 16 гадоў будзе беларускае — а пасля ўжо як сама вырашыць.

**— Каця, самі вы, дарэчы, дачку хацелі?**

— Калі шчыра, то сына. А вось Вільфрэд наадварот.

**— Якія бліжэйшыя спартыўныя планы?**

— З верасня ўжо пачынаю трэніравацца па праграме, не за гарамі і чэмпіянат свету — трэба ж прайсці кваліфікацыю, каб патрапіць на наступную Алімпіяду. Ну, а затым яшчэ раз стаць алімпійскай чэмпіёнкай. (Смяецца.)

**— Што ж, поспехаў! І нашы віншаванні імянінніцы!**

**Алесь СІВЫ.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

● Сусветны рэкорд па колькасці **смяротных выпадкаў** на аўтадарогах — 74.000 у мінулым годзе — устанавіў Кітай.

● Паводле даных Міністэрства адукацыі рэспублікі, у гэтым годзе дзяржавай было выдадзена каля **115 найменняў падручнікаў** (летась гэтая лічба не перавышала яшчэ 50).

● У першым паўгоддзі доля **экспарту будаўнічых матэрыялаў** і канструкцый беларускіх прадпрыемстваў склала 21,5 працэнта ад агульнага аб'ёму выпуску прадукцыі ў будаўнічай галіне.

## УСМІХНЕМСЯ!




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

Маленькая дзяўчынка, якой вельмі хацелася, каб у яе была сястрычка, пытаецца:

*— Мама, гэта праўда, што хлопчыкаў знаходзяць у капусце, а дзяўчынак — у кветках?*

*— Сапраўды так.*

*— Дык няўжо ты не магла адрозніць кветкі ад капусты?!*

• • •

*— Дачушка, што табе сказаў той хлопец, з якім ты зараз танцавала?*

*— Ён казаў, што да таго, як пазнаёміўся са мной, увесь свет быў для яго пустыняй.*

*— Ага, я і гляджу, што ён танцуе як вярблюд.*

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 7 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (017)** | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 58000 | 58700 | 32000 | 32800 | 9000 | 9300 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 58000 | 59000 | 32800 | 33300 | 9200 | 9350 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 57500 | 59000 | 32500 | 33300 | 9000 | 9300 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 43100. 00 | | 24346.16 | | 6.850 | | Курс на 8.08.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6,2585 | | 3,5323 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс *(міжбанкаўскі рынак)* | 86000 | 90000 | 48533 | 50804.4 | 13675 | 14318 | |
| Рэальна абгрунтаваны курс *(прыблізна)* | 68000 | 68500 | 38200 | 38700 | 10500 | 11000 | |

Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістраваны **Беларускі фонд «Касіяпея»** (рэг. № 01100 ад 1.06.98 г.), асноўнай мэтай якога з'яўляецца распрацоўка асветніцкіх праграм, даследаванне і вывучэнне грамадскай думкі і ажыццяўленне асветніцкай дзейнасці ў сферах экалогіі, сацыяльных структур, ахоўы мацярынства і дзяцінства, права, адукацыі, навукі і культуры.

*Тэл./факс (017) 274-93-83*

**Дзень будаўніка, які прадстаўнікі самай мірнай прафесіі адзначаць у нядзелю, якраз супадае з тым часам, калі ўсе ведамствы падводзяць вынікі работы за паўгоддзе. Зразумела, будаўнічая галіна не выключэнне з гэтага правіла, таму асаблівасцю святкаванняў становяцца частыя размовы пра дасягненні і планы. Нельга не заўважыць, што за апошнія два-тры гады ў іх прысутнічае здаровы аптымізм, які тлумачыцца проста: галіна прайшла ніжэйшы пік крызісу і інтэнсіўна развіваецца. Будаўніцтва, асабліва жыллёвае, названа прыярытэтнай справай дзяржавы.**

**Рабочым, інжынерна-тэхнічным работнікам, архітэктарам, праекціроўшчыкам, ветэранам, кіраўнікам будаўнічага комплексу рэспублікі**

*Дарагія сябры!*

*Сардэчна віншую вас з прафесійным святам — Днём будаўніка!*

*Прафесія будаўніка заслужана карыстаецца ў народзе глыбокай павагай. Ваша высакародная стваральная праца, вашы ўмелыя рукі змяняюць аблічча гарадоў і вёсак Беларусі.*

*Будаўнічы комплекс рэспублікі працуе сёння, нарошчваючы тэмпы. Гэта добрая прымета паляпшэння эканамічнай сітуацыі ў краіне. У бягучым годзе, як і ў мінулым, вам удалося дабіцца павелічэння аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва, у тым ліку ў вёсцы, вытворчасці сучасных будаўнічых матэрыялаў і канструкцый, асваення перадавых тэхналогій, зніжэння кошту і павышэння якасці праектных і будаўнічых работ.*

*Узводзячы жылыя дамы і іншыя будынкі трывала, надзейна і ў тэрмін, вы ствараеце добры настрой тым, хто будзе ў іх жыць, вучыцца і працаваць. Самая высокая ўзнагарода за вашу працу — удзячнасць людзей, усіх, каго вы радуеце дабротнымі і прыгожымі дамамі, будынкамі і збудаваннямі.*

*Ад усёй душы жадаю вам новых працоўных здзяйсненняў на карысць нашай Радзімы. Шчасця вам, дабрабыту ў кожнай сям'і, радасці — у кожным сэрцы, удачы — у кожнай справе.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*6 жніўня 1998 г.*

# Сістэма фінансавання жыллёвага будаўніцтва патрабуе ўдакладнення

Тым не менш, нельга і не заўважыць, што сёлета ў выказваннях адказных прадстаўнікоў будаўнічай галіны з'явіліся ноткі занепакоенасці ці нават трывогі. За некалькі гадоў імклівага росту сталі бачны пэўныя недахопы як у арганізацыі работы суб'ектаў будаўніцтва, так і ў фінансавай сферы. Ды і тое, што было добра ў 1996-м, сёння ўжо не прыносіць чаканага эфекту. Напрыклад, у нядаўняй справаздачы аб ходзе рэалізацыі жыллёвай праграмы ў сталіцы начальнік аддзела будаўніцтва Мінгарвыканкама Алег Мазго паведаміў, што ў горадзе з вялікімі цяжкасцямі ўдалося выканаць паўгадавое заданне — 222 тысячы кв. метраў. А план будаўніцтва жылля, прадугледжанага указамі прэзідэнта, выкананы толькі на 94,6 працэнта, у прыватнасці, па указу № 483 на 56,7 працэнта. А. Мазго тлумачыць гэта тым, што ўпершыню пачаў адчувацца недахоп магутнасцяў і фінансавых магчымасцяў падрадчыкаў.

У сталіцы сапраўды з пэўнымі цяжкасцямі ішло фінансаванне будаўніцтва жылля, у тым ліку выдзяленне крэдытных сродкаў. Рэальна была выдаткавана сума ў 662,9 млрд. рублёў у той час, калі згодна з графікамі крэдытавання планавалася выдзеліць у паўгоддзі 1034,6 млрд. рублёў. Утварылася нават запазычанасць перад будаўнічымі арганізацыямі, памер якой у ліпені склаў 54 млрд. рублёў, што абярнулася вымушаным прыцягненнем асабістых сродкаў будаўнічых арганізацый, затрымкамі ў выплаце зарплаты.

Адпаведныя службы Мінгарвыканкама выказваюць сур'ёзную занепакоенасць з нагоды выканання графікаў па ўводу жылля ў трэцім і чацвёртым кварталах, якія значна вышэй, чым у першым паўгоддзі, — 151 і 261 тысяча кв. метраў. Прычым, калі жылыя дамы, запланаваныя да ўводу ў ліпені—верасні блізкія да завяршэння, то ў чацвёртым квартале прыйдзецца папрацаваць яшчэ шмат. Больш таго, будаўнікам неабходна закласці падмурак амаль паловы дамоў, якія мяркуецца здаць у 1999 годзе, на які ў Мінску ўстаноўлены план у памеры 740 тысяч кв. метраў. Адначасова трэба ўвесці ў дзеянне ўсе аб'екты сацыяльна-бытавой сферы. Справіцца з такой задачай вельмі цяжка, але сп. Мазго сцвярджае, што яе выкананне, тым не менш, справа рэальная.

Цяжкасці, якія перажываюць сталічныя будаўнікі, хаця і з некаторымі асаблівасцямі, адчуваюцца і ў іншых рэгіёнах. Так, агульныя сталі для краіны праблемы, звязаныя з субсідзіраваннем і крэдытаваннем будаўніцтва жылля. Прычым, гэта ў першую чаргу стала галаўным болем не будаўнікоў, а дзяржавы. Напрыклад, калі ў 1996 годзе кожны рубель субсідый прыцягнуў дадаткова яшчэ 2,01 рубля асабістых сродкаў грамадзян, то летась гэты паказчык упаў да 0,98 рубля, а за пяць месяцаў гэтага года і наогул склаў толькі 76 капеек. Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва вымушана было тэрмінова шукаць як прычыны такога становішча, так і шляхі павышэння эфектыўнасці субсідзіравання. У выніку была адменена практыка адначасовага прадастаўлення субсідый і льготных крэдытаў, што дазваляла людзям будаваць сабе жыллё амаль цалкам за кошт дзяржавы. Цяпер падобная магчымасць засталася толькі ў вельмі вузкага кола грамадзян, якія трапляюць пад дзеянне «жыллёвых» указаў прэзідэнта.

Нягледзячы на тое, што карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва паведамілі аб адсутнасці якіх-небудзь праблем з выдзяленнем ільготных крэдытаў і нават запэўнілі, што крэдытныя рэсурсы іншы раз аказваюцца незапатрабаванымі, на справе лічбы сведчаць пра адваротнае. Пачасціліся выпадкі, калі звычайныя грамадзяне сутыкаюцца з адтэрміноўкай ці нібыта ненаўмысным зацягваннем разгляду іх заяў. Несумненна, гэта сведчыць пра тое, што сярод дзяржаўных структур ужо не існуе адзінай думкі адносна механізму і маштабаў крэдытавання.

Вядома, што ў 1996 годзе ў якасці крэдытаў было выдзелена 1,3 трлн. рублёў, у 1997 — 7,4 трлн., а сёлета наогул плануецца 12,8 трлн. рублёў. Але яшчэ напярэдадні прыняцця бюджэту на бягучы год, старшыня праўлення «Беларусбанка» і член Савета Рэспублікі Надзея Ермакова, выступаючы ў парламенце, папярэджвала, што для захавання такіх тэмпаў крэдытавання не хапае значнай часткі сродкаў. Цяпер ужо не з'яўляецца сакрэтам, што гэты дэфіцыт пагашаецца пераважна за кошт грашовай эмісіі Нацыянальнага банка.

Некаторыя эканамісты лічаць такую практыку не толькі небяспечнай, але і згубнай для эканомікі краіны. «Хаця і выказваюцца аргументы, нібыта «будаўнічыя» трыльёны не трапляюць у рэальны сектар эканомікі, нельга не адмаўляць відавочнай ісціны: любая буйная эмісія цягне за сабой віток інфляцыі», — кажа старшыня Камісіі па эканоміцы, бюджэту і фінансах Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Міхаіл Матусевіч. Падобнае разумеюць і ў Савеце Міністраў. Але, з другога боку, урад пакуль не бачыць іншых сур'ёзных крыніц, за кошт якіх можна было б працягваць фінансаванне жыллёвага будаўніцтва, захоўваючы адначасова тэмпы росту ў галіне.

Праўда, разуменне праблем прымушае прымаць пэўныя меры па ўмацаванню парадку і кантролю ў фінансавай сферы. Так, з ліпеня ўведзена штомесячная статыстычная справаздачнасць аб выкарыстанні сродкаў на прадастаўленне аднаразовых субсідый і льготных крэдытаў. Гэта тлумачыцца тым, што кантралюючымі органамі неаднаразова былі ўстаноўлены факты не толькі ўключэння выканкамамі ў спісы на атрыманне ільготных крэдытаў асоб, якія на іх не маюць права ці наогул не маюць патрэбы ў паляпшэнні жыллёвых умоў, але і нерацыянальнага выкарыстання грашовых рэсурсаў.

Адначасова шукаюцца альтэрнатыўныя крыніцы прыцягнення сродкаў у будаўніцтва. Распрацоўваецца адпаведная сістэма стымулявання патэнцыяльных інвестараў. У краіне вядзецца мэтанакіраваная работа па стварэнню нарматыўна-прававой базы пазабюджэтнага фінансавання жыллёвага будаўніцтва. Напрыклад, пасля таго як у Мінску была апрабавана сістэма мэтавай аблігацыйнай жыллёвай пазыкі, да яе рэалізацыі прыступілі ў Брэсце і ў Гродне. Дзяржава аказвае значнае садзейнічанне ў рэалізацыі сістэмы будзберажэнняў на аснове праграмы «Рацыянальны дом». Прычым апошні эксперымент ужо прыносіць рэальныя вынікі. Удзельнікамі праграмы сталі амаль 1300 чалавек, на трастовых назапашвальных рахунках якіх у «Беларусбанку» ляжаць больш за 100 млрд. рублёў. Прычым толькі ў чэрвені кліенты «Рацыянальнага дому» інвесціравалі ў будаўніцтва 23 млрд. асабістых сродкаў.

Дарэчы, апошняе тлумачыцца тым, што ў рэшце рэшт кіраўніцтва банка пайшло на крок, які раней адвяргаўся нават без каментарыяў: дэкрэтам прэзідэнта было адменена дэклараванне сродкаў грамадзян, якія накіроўваюцца на будаўніцтва і пакупку жылля. Па ацэнках спецыялістаў, чаканні, што беларус адразу кінецца пераўтвараць «прыхаваныя» рублі ды долары ў квадратныя метры, пакуль апраўдаліся не ў поўнай меры, але ўсё ж значныя сумы пачалі працаваць.

Імкнучыся перавесці акцэнт на пазабюджэтнае фінансаванне будаўніцтва жылля, дзяржава адначасова не павінна забываць, што ўласныя рэсурсы грамадзян вельмі абмежаваныя, нават сціплыя. Рэальны ўзровень сённяшняй заработнай платы не дазваляе сярэдняму беларусу адкладваць значныя сумы на будучую кватэру. Амаль усе тыя 600 тысяч сем'яў, якія зараз стаяць на паляпшэнні жыллёвых умоў, у той ці ў іншай меры ўсё ж спадзяюцца на дапамогу дзяржавы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## У СВЕЦЕ

## Хроніка апошніх падзей

● **Магутныя выбухі адбыліся ўчора раніцай** у сталіцах Кеніі і Танзаніі — побач з будынкамі пасольства ЗША. Карэспандэнты паведамляюць аб дзесятках забітых і сотнях параненых. Будынкам амерыканскага пасольства ў Найробі і Дар-эс-Саламе нанесены сур'ёзны ўрон. У паведамленнях з Найробі гаворыцца, што тры чалавекі ў пасольстве забіты, а пасол лёгка паранены. Што было прычынай выбуху, пакуль невядома.



**Ранены супрацоўнік амерыканскага пасольства ў сталіцы Кеніі — Найробі.**

● **Сусветны банк** прадаставіў Расіі чарговую пазыку ў паўтара мільярда долараў. На структурную перабудову эканомікі 300 мільёнаў долараў будуць выдзелены неадкладна. Астатнія грошы будуць пераводзіцца на працягу бліжэйшых 18 месяцаў у залежнасці ад ходу эканамічных рэформаў у Расіі.

● **Падрыхтоўка да магчымага** ваеннага ўмяшальніцтва НАТО ў канфлікт у Косава будзе завершана на працягу аднаго-двух дзён, паведаміў прадстаўнік Белага дома Кроўлі. Ён дадаў, што ЗША абураны жорсткімі адносінамі сербскіх ваеннаслужачых да мірнага насельніцтва правінцыі. Дзяржсакратар ЗША Олбрайт заявіла, што дзеянні сербскіх уладаў у Косава робяць усё больш рэальнай магчымасць ваеннага ўмяшальніцтва НАТО. ЗША спрабуюць пераканаць прэзідэнта Югаславіі Мілошавіча ў неабходнасці спынення ваенных дзеянняў і дазволіць касаўскім бежанцам вярнуцца ў свае дамы.

● **Моніка Левінскі,** былая практыкантка ў Белым доме, пачала даваць паказанні «вялікаму журы» ў Вашынгтоне. Учарашняе, першае, пасяджэнне працягвалася 6 гадзін. Журы высвятляе, ці была ў 25-гадовай Левінскі інтымная сувязь з прэзідэнтам ЗША Клінтанам і ці не спрабаваў ён схіліць яе да дачы ілжывых паказанняў. Прэзідэнт Клінтан катэгарычна адмаўляе, што ў яго была сувязь з Левінскі. Сам ён дасць паказанні 17 жніўня. Яго адказы на пытанні прысяжных будуць перадавацца «вялікаму журы» па спецыяльнай сістэме відэасувязі з Белага дома.

● **Прэзідэнт Азербайджана** Аліеў апублікаваў указ аб адмене цэнзуры. Па рэспубліканскаму тэлебачанню ўчора было паведамлена аб роспуску Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку — Галоўліта. Адмена цэнзуры была галоўнай умовай спынення байкоту прэзідэнцкіх выбараў з боку апазіцыі. Выбары ў Азербайджане намечаны на 11 кастрычніка.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

## Інфарм-кактэйль

Вельмі незвычайныя метамарфозы адбыліся з шавялюрай жыхара горада Крыанларыха Доналда Мак-Дыскі. Доналд быў брунетам, што даволі-такі радка для шатландца. Тым больш, што дзед, бабка і бацькі Доналда былі шатэнамі. Да 50 гадоў Доналд раптам стаў імкліва сівець, на працягу некалькіх месяцаў яго шавялюра набыла «алюмініевы» колер.

Але ў адзін цудоўны дзень валасы ў Доналда пачалі імкліва выпадаць, а сярод сівізны, якая засталася, стала прабівацца порасль ярка-рыжых валасоў. Праз пару месяцаў галава Доналда набыла колер «медзі». Тлумачэнне гэтай з'яве спецыялісты-дэрматолагі да гэтага часу не знайшлі.

**«Скотсмен»**

*Службачыя такійскага аэрапорта са здзіўленнем знайшлі чалавека на... шасі «Боінга-747», які прыбыў з Шанхая. Аматарам вострых адчуванняў аказаўся 23-гадовы кітаец, які сур'ёзна абмарозіўся ў дарозе і не мог крануцца. Да ўсеагульнага здзіўлення, «шукальнік прыгод» застаўся жывым і нават быў у прытомнасці пасля 3-гадзіннага падарожжа на вышыні больш за 10 тысяч метраў у негерметызаваным адсеку. Гэта унікальны выпадак, таму што ніхто не мог уявіць, што такое магчыма.*

**ІТАР—ТАСС.**

## Смехатэрапія

### Так і сказаў

*Муж адкрывае шафу і ў яго аж вочы акругляюцца:*
*— Мужык, што ты тут робіш?*
*— Вы мне, вядома, не паверыце, але я схаваўся сюды ад вашай жонкі!*

●

*Гаспадар «Масквіча» задавіў пераса і кажа яго ўладальніку:*
*— Не хвалюйцеся! Я вам замяню загінуўшага.*
*— Што вы! Наш быў худзейшы за вас...*

### Анекдоты ад «зорак»

**Міхаіл БАЯРСКІ:**

Жонка піліць мужа:
— Ты што, не памятаеш, што даваў абяцанку больш не піць?!
Мужык ледзь варочае языком:
— А я б-больш і не п'ю, чым раней п-піў!

●

**Мікалай КАРАЧАНЦАЎ:**

Адзін паляўнічы хваліцца перад сябрамі тым, што ён — трапны стралок. У гэты час пралятае над ім качка. Паляўнічы:
— Глядзіце, што зараз адбудзецца!
Ён страляе, і качка... працягвае ляцець.
— Сябры, — кажа паляўнічы, — вы толькі што назіралі за цудам: паляцела мёртвая качка.

## СЁННЯ

**З 20.26 — 17-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Вадалея.**

**Імяніны**

*Пр.: Ермалая, Майсея, Праскоўі*
*К.: Дамініка, Цыпрыяна, Эмільяна*

Сёння ўдзень чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. На значнай тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Вецер заходні 6—11 м/сек, парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 16—18, у Мінску і Магілёве — 17—19, у Гродне — 18—20, у Гомелі — 19—21, у Брэсце — 20—22 вышэй нуля.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 9 жніўня на значнай тэрыторыі дажджы, 10-га на ўсходзе кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні і паўночна-заходні 4—9 м/сек, парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра 9-га ўначы — 8—13, удзень 17—22. 10-га ўначы 6—11, удзень 19—24 градусы цяпла.

## У АСНОВЕ БЕЛАРУСКА-ПАКІСТАНСКІХ АДНОСІНАЎ ПАВІННА БЫЦЬ ЭКАНОМІКА

**Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў час сустрэчы з міністрам харчавання і сельскай гаспадаркі Пакістана Абдулам Сатарам Лалікам, якая адбылася раніцай 7 жніўня ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы.**

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што існуючы вопыт супрацоўніцтва з Пакістанам усяляе ўпэўненасць: адносіны двух краін будуць паспяхова развівацца і ў далейшым. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, нядаўна прэм'ер-міністр Пакістана звярнуўся да яго з пажаданнем наведаць нашу рэспубліку. Беларусь рыхтуецца прыняць яго з візітам, і да гэтага часу будзе сфарміраваны цэлы пакет праектаў міжурадавых пагадненняў, сказаў прэзідэнт.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

*Версіі*

## Грашовую дробязь выведуць з абароту?..

У рэспубліцы з-пад крыса паціху выпаўзла інфармацыя, сэнс якой зводзіцца да таго, што хутка ў Беларусі будуць выведзены з абароту сто-, двухсот-, пяцісотрублёвыя грашовыя знакі. Маўляў, у самім Нацбанку ўжо абмяркоўвалася пытанне аб забароне да прыняцця арганізацыямі ў канцы студзеня будучага года гэтых разліковых білетаў пры аплаце паслуг, работ і тавараў. Да таго ж некаторыя неафіцыйныя крыніцы сцвярджаюць і аб тым, што ў камерцыйных банках з'явілася тэлеграма галоўнага банка. Змест яе быццам бы наступны: у абавязковым парадку папярэдзіць сваіх кліентаў аб тым, каб апошнія падавалі разліковыя дакументы з сумамі, указанымі ў тысячах рублёў.

Каб высветліць, наколькі гэтыя чуткі маюць пад сабой глебу, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся ў прэс-цэнтр Нацыянальнага банка. Там яму паведамілі, што ніякай адпаведнай інфармацыяй не валодаюць і афіцыйна не пацвердзілі факту хуткага вываду «зубранят» з абароту.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПРЭС-ЦЭНТР ПРАКУРАТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ІНФАРМУЕ:

❑ **Пракуратурай г. Мінска** накіравана ў суд крымінальная справа ў адносінах В. А., які абвінавачваецца ў тым, што, працуючы выкладчыкам Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка і валодаючы правам прыёму ў студэнтаў бягучых экзаменаў па англійскай мове, першапачаткова ў асобных студэнтаў ацэньваў веды як нездавальняючыя, а затым пры паўторнай здачы экзамена, прымушаў студэнтаў даваць хабар.

❑ ***Пракуратурай г. Мінска*** *накіравана ў суд крымінальная справа ў адносінах да М. К., 1962 года нараджэння, якая абвінавачваецца ў тым, што, працуючы начальнікам фінансавага аддзела ІП «Сегдэн» і адначасова з'яўляючыся кіраўніком прадстаўніцтва швейцарскай фірмы «Олерэкс», па папярэдняй змове з іншымі асобамі неаднаразова ўчыняла крадзеж маёмасці і грашовых сродкаў на агульную суму больш за 24 млрд. рублёў.*

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

***Амаль ніхто сёння не замоўчвае таго факту, што сітуацыя з валютным рэгуляваннем у рэспубліцы застаецца пакуль складанай. Аб дэфіцыце ж СКВ у краіне і казаць не трэба: усе гэта адчулі на сабе. Тым не менш кіраўніцтва Нацыянальнага банка па-ранейшаму з аптымізмам глядзіць на перспектывы ўнутранага рынку. Як было заяўлена, галоўны банк рэспублікі да канца года плануе забяспечыць адзіны курс на беларускім рынку і па максімуму зблізіць яго з курсам за межамі рэспублікі. Між тым, зараз захоўваецца істотная розніца паміж курсам таго ж долара ў банках краіны, на таргах міжбанкаўскай валютнай біржы, на дадатковай сесіі, а тым больш на міжбанкаўскім рынку, дзе за адзін долар прапануюць па 85 тысяч беларускіх рублёў. Якім жа чынам будзе выпраўляцца сітуацыя? Што чакаць у перспектыве? На гэтыя і іншыя пытанні карэспандэнт «Звязды» паспрабаваў знайсці адказы ў дэкана эканамічнага факультэта БДУ Міхаіла КАВАЛЁВА, які з'яўляецца саветнікам старшыні праўлення Нацыянальнага банка.***

# РЭСПУБЛІКА «ЧАКАЕ» НЕПАПУЛЯРНЫХ МЕРАЎ.

## МАГЧЫМА, ТОЛЬКІ ТАК МЫ СТАБІЛІЗУЕМ КУРС РУБЛЯ...



— САПРАЎДЫ, да канца года пастаўлена задача перайсці на адзіны курс на ўсіх рынках. У прынцыпе яна дасягальная, але гэта не азначае, што дзесьці не знойдзецца адзін або два пакупнікі, якія, магчыма, для сваіх не зусім законных аперацый будуць згодны плаціць і большую цану. Калі размова ідзе аб адзіным курсе, то маецца на ўвазе, што большасць валюты будзе прадавацца па гэтаму курсу. І пэўная дынаміка збліжэння ўсё ж такі існуе. Так, на міжбанку з'явіўся курс ў 85 тысяч рублёў. Аднак гэта фактычна курс нейкіх складаных бартэрна-вэксальных і іншых здзелак. Фактычна на міжбанку афіцыйна няма зараз продажу валюты, ён канцэнтруецца на дадатковай сесіі. І як толькі на дадатковай сесіі стане прадавацца асноўная маса валюты, можна будзе казаць аб тым, што яе курс будзе вызначаючым у цэлым для курса долара. Як і планавалася, з 1 жніўня практычна лібералізаваны рынак наяўнай валюты. Але цяпер летні сезон — усе едуць адпачываць — і па-ранейшаму валюты не хапае. Хоць Нацбанк нават адмовіўся ад абавязковага продажу 30 працэнтаў галоўнаму банку, у выпадку, калі наяўная валюта залічваецца для аплаты, скажам, жылля на безнаяўны разліковы рахунак.

**— На дадатковай сесіі курс СКВ ужо даходзіць да 50 тысяч. Што датычыцца афіцыйнага курсу, то ён больш сціплы.**

— Курс будзе прыбліжацца да рыначнага. Запланавана паступова змяншаць аб'ём продажу на асноўнай сесіі, дзе прадаецца валюта для куплі энерганосьбітаў. Зразумела, што калі мы пяройдзем на больш высокі курс для аплаты энерганосьбітаў, немінуча яны некалькі падаражэюць. Па маіх разліках, гэта істотна інфляцыі не выклікае. У цэлым пераход з сённяшняга афіцыйнага курса на курс дадатковай сесіі выкліча не больш чым 5-працэнтную інфляцыю, раскладзеную на 2-3 месяцы, плюс да той інфляцыі, якая ідзе натуральным спосабам.

**— Акрамя падаражання энерганосьбітаў, як вынік, адбудзецца натуральна і рост цэн.**

— У суме ўсё гэта ўкладваецца ў межы 5 працэнтаў. Я заўсёды лічыў, што гэта не страшна. Мы павінны дабівацца, каб у нас з Расіяй былі адзіныя цэны на энерганосьбіты. Інакш губляе сэнс увесь саюз. У цэны ўсёй прадукцыі закладваецца кошт энерганосьбітаў. І калі энерганосьбіты ў Расіі будуць таннейшыя, а ў нас даражэйшыя, то беларускія тавары стануць неканкурэнтаздольнымі. Відавочна, мы павінны прыняць некаторыя рашэнні па падтрымцы расійскай стабілізацыйнай праграмы і ўмацаванню эканамічнага супрацоўніцтва з рэгіёнамі Расіі. Напэўна, мы павінны павялічыць імпартныя пошліны на 3 працэнты, як і ў Расіі, увесці падатак з тавараабароту на імпартныя спажывецкія тавары на 5 працэнтаў і іншыя меры, каб уніфікаваць нашы дзеянні з Расіяй. З другога боку, там таксама павінны пайсці нам насустрач і прадаваць энерганосьбіты рэспубліцы па тых цэнах, па якіх могуць прадаваць іх у сябе.

**— Вы адзначылі, што аб'ёмы здзелак па 85 тысяч рублёў за долар невялікія. Можна ўдакладніць лічбы?**

— Я не магу назваць лічбы. Але, па маіх даных, аб'ёмы гэтых аперацый нязначныя, практычна ўсе гэтыя аперацыі носяць паўзаконны або незаконны характар. Стабілізаваць курс можна толькі ў адным выпадку: калі мы будзем купляць тавараў столькі ж, колькі і прадаём. А гэта значыць, трэба ісці на непапулярныя меры па стрымліванню другаснага імпарту. Курс, што б там ні казалі, залежыць не столькі ад дзеянняў Нацыянальнага банка, колькі ад гандлёвага сальда.

**— Міхаіл Міхайлавіч, цікава было б ведаць, наколькі змянілася сітуацыя з прыцягненнем валютных укладаў насельніцтва.**

— Тэмп прыросту ўкладаў насельніцтва, нягледзячы на тое, што зараз летні сезон, захоўваецца дастаткова высокім. Скажам, за тыдзень з 15 па 22 ліпеня больш як 2 мільёны долараў паступіла новых укладаў насельніцтва. У цэлым гэты тэмп у апошні час захоўваецца — за тыдзень прырост укладаў складае ад 2 да 3 мільёнаў долараў. На сённяшні дзень сума ўсіх валютных укладаў насельніцтва ў банках дасягнула 165,5 млн. долараў, але, па вялікаму рахунку, гэта вельмі мала. Рэальна ў насельніцтва долараў істотна больш. І як ні дзіўна, рублёвых укладаў насельніцтва сёння ў банках больш, чым валютных. Асабліва добрую дынаміку прыросту валютных укладаў апошнім часам трымаюць ААБ «Беларусбанк», «Белпрамбудбанк», «Белбізнесбанк». Аднак у рэсурснай базе беларускіх банкаў уклады насельніцтва складаюць нязначную долю — 12,7 працэнта, у той час як у Расіі ў рэсурсах банкаў уклады складаюць амаль трэць. І гэта звычайная норма для любога банка свету. Сапраўды, працаваць з насельніцтвам цяжка: гэта невялікія кароткія грошы. Але праца банка і заключаецца ў тым, каб збіраць кароткія, невялікія грошы і ператвараць у доўгія вялікія крэдыты. Дарэчы, калі браць банкі рэспублікі, то толькі ў некалькіх доля ўкладаў у рэсурснай базе істотна вышэй — у ААБ «Беларусбанка» амаль 20 працэнтаў рэсурсаў складаюць грошы насельніцтва, у «Белкапбанка» — 30 працэнтаў, у «Поіска» — 40 працэнтаў, у «Белбалты» — 74.

**— І ўсё ж такі аб адзіным курсе. Наколькі істотна будуць адрозніваца лічбы курса сённяшнія ад тых, на якія мы выйдзем?**

— Усё залежыць ад таго, ці ўдасца палепшыць гандлёвае сальда да канца года. І па-другое, усё залежыць ад таго, якой будзе эмісія ў другім паўгоддзі. Калі эмісія будзе ўмеранай, а так і запланавана, то цалкам верагодна стабілізаваць адзіны курс долара на ўзроўні 60—70 тысяч рублёў. Таму што курс у значнай ступені — гэта не толькі манетарная раўнавага паміж колькасцю беларускіх рублёў і колькасцю долараў, але ў значнай ступені і псіхалагічны эфект на гэту кропку раўнавагі.

Пад уздзеяннем спекулятыўнага попыту, псіхалагічных фактараў гэтая кропка раўнавагі можа вельмі істотна зрушвацца. Калі большасць суб'ектаў гаспадарання пачне працаваць па нармальных схемах, гандлюючы заробленай валютай на біржы, і на біржы мы прыйдзем да адной сесіі, на якой будзе праводзіцца асноўная маса аперацый, то курс у значнай ступені стабілізуецца. І думаю, усе перадумовы, каб зрабіць гэта да канца года, ёсць.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# У ПАЦЫЕНТАЎ БАЛЯЦЬ ЗУБЫ, А Ў СТАМАТОЛАГАЎ — ГАЛОВЫ

***Калі ў маладосці яшчэ і ўдаецца пазбегнуць сустрэчы са стаматолагам, то ў сталым узросце абавязкова давядзецца наведаць зубнога ўрача. Адным словам, усе дарогі вядуць ў стаматалагічную паліклініку.***

У Баранавічах паліклініка самая буйная ў вобласці. І хаця тут працуе 72 ўрачы і 32 зубныя тэхнікі, каб залячыць зуб, чалавеку прыйдзецца заняць чаргу з 6 гадзін раніцы, якая часта заканчваецца на вуліцы. Паліклініка адзіная ў горадзе і разлічана на 60 тысяч чалавек. Для параўнання: у Брэсце працуюць 4 паліклінікі і яшчэ 2 будуюцца. Хаця па насельніцтву абласны цэнтр ненамнога большы за Баранавічы.

Праблему перагружанасці не могуць зняць і 19 зубных крэслаў, якія працуюць на прадпрыемствах горада. Адзінаццаць крэслаў знаходзяцца на ўтрыманні заводаў, а астатнія аплачвае паліклініка.

Галоўны ўрач Міхаіл Грыцавец уяўляе пры размове цікавасць не толькі як пляменнік славутага лётчыка-героя Сяргея Грыцаўца, а ў нашым выпадку — як добры спецыяліст і чулы чалавек, да якога на прыём імкнуцца трапіць многія пацыенты. «Праблемы стаматалогіі сёння — гэта не толькі медыцынскія, але і сацыяльныя», — кажа Міхаіл Аляксандравіч.

У горадзе неабходна пабудаваць яшчэ адну паліклініку. Гарвыканкам наконт гэтага нават прыняў адпаведную пастанову. Але патрэбны грошы і не толькі на капітальны рамонт памяшкання (будынак знайсці можна), як для закупкі абсталявання, якое абыйдзецца ў некалькі разоў даражэй, чым дах над галавой. Адно крэсла з устаноўкай каштуе пад 12 тыс. долараў.

Як паказала практыка, абсталяванне ў зубных кабінетах павінна быць заходняе. Замежныя тэхналогіі вельмі эфектыўныя, але і дарагія. Гэта датычыцца не толькі тэхнікі, але і медпрэпаратаў. Напрыклад, нямецкі абязбольваючы прэпарат «Ульшракаін» дзейнічае імгнення і здымае боль на доўгі час.

Для стаматалагічнай паліклінікі мінздраў выдзяліў з рэспубліканскага бюджэта валюту, на якую і было закуплена чэшскае абсталяванне. На Беларусі ў 96—99 працэнтах насельніцтва зубы пашкоджаны карыёзам. І ў краінах Захада да 1960 года сітуацыя была аналагічная, але за апошнія 25 гадоў захворванне карыёзам знізілася ў 4 разы. І найперш, дзякуючы прафілактычным мерам. Пра якую ж прафілактыку можна гаварыць у нас, калі туба зубной пасты каштуе амаль 100 тысяч. Гаворка ідзе пра пасту, якая ўтрымлівае лекавыя кампаненты, а не толькі мел.

На дзесяць тысяч чалавек у Беларусі 3,3 стаматолагі, у той час, як у Фінляндыі 12 урачоў. Паліклініка фінансуецца з гарадскога бюджэта. Хаця артапедычнае аддзяленне і на гаспадарчым разліку, але яно з'яўляецца стратным.

Справа тут у тым, што пратэзаванне для пенсіянераў бясплатнае, а яны — асноўны кантынгент у артапедаў. Ды акрамя пенсіянераў бясплатна ставяць пратэзы афганцам, донарам і іншым.

Каронка (зуб) з металакерамікі каштуе 650 тысяч, а з пластмасы каля 100 тысяч рублёў. Для пенсіянераў гэта дорага? Але ў нас ёсць вялікая катэгорыя людзей, у якіх зарплата не большая за пенсію, і ім прыходзіцца плаціць.

У тых жа ўрачоў-стаматолагаў базавы аклад 1 млн. 600 тысяч, а з улікам стажу, кваліфікацыі і г. д. яны атрымліваюць дзесьці пад 2 млн. 300 тысяч. Вось і баляць галовы ў нашых дактароў, як выжыць на такую зарплату. Прыходзіцца круціцца, шукаць, дзе можна падзарабіць. Вядома, што пры такім стане справы, ёсць пэўныя страты на асноўнай рабоце. Урач проста выдыхаецца.

Многія праблемы былі б вырашаны, калі б стаматолагі мелі рэальную магчымасць адкрываць прыватныя кабінеты.

— Атрымаць ліцэнзію на прыватную практыку не праблема, але сёння ў горадзе ёсць толькі адзін прыватны зубны кабінет. Стаматолагу, без падтрымкі дзяржавы надзвычай цяжка абсталяваць кабінет, набыць неабходныя лекі і матэрыялы, — гаворыць М. Грыцавец.

А дзяржава не вельмі ўжо і зацікаўлена ў развіцці прыватнай медыцыны. Тут адной ліцэнзіі мала, патрэбна фінансавая падтрымка. Хаця б вызваленне, на першым часе, ад падаткаў. Праўда, прыватныя кабінеты створаць сітуацыю, у якой прайграюць дзяржаўныя паліклінікі, з якіх адыйдуць, найперш, тыя, хто палічыць за лепшае заплаціць, а не стаяць у чэргах разам з пенсіянерамі, якім прыватныя стаматолагі бясплатна пратэзы ставіць не будуць. Найлепш было б стварыць умовы, якія далі б магчымасць чалавеку мець выбар. Калі хтосьці хоча паставіць пломбу за грошы, то чаму ён гэта зрабіць не можа? Гаворка ідзе пра людзей з сярэднім дастаткам. Багатыя выйсце знойдуць. Пры жаданні інтарэсы дзяржавы, пацыентаў і стаматолагаў можна было б скаардынаваць, і ўсе бакі былі б задаволены.

І тут усё залежыць ад пазіцыі дзяржавы. А пакуль ініцыятыва караецца і ў кожным дзелавым чалавеку бачыцца злодзей, то чакаць зрухаў да лепшага не прыходзіцца.

Баранавіцкая стаматалагічная паліклініка — база для вытворчай практыкі Мінскага медінстытута. Тут праходзяць стажыроўку студэнты стаматалагічнага факультэта. Інстытут выпускае добрых спецыялістаў, і пацыенты, са слоў галоўурача паліклінікі, да іх, як спецыялістаў, прэтэнзій не маюць. Хаця, здараецца, наракаюць на раўнадушнасць. Што ж, маладое пакаленне больш прагматычнае і дзелавое.

За апошнія 6 гадоў медперсанал паліклінікі абнавіўся больш чым напалавіну. Працуе і некалькі пенсіянераў, вопытных спецыялістаў.

Сёння, у горадзе недахопу ў стаматолагах няма. Застаецца толькі адкрыць яшчэ адну паліклініку, ды зрабіць капітальны рамонт у старой. Але гэта ў перспективе, а пакуль што гараджанам з хворымі зубамі прыйдзецца займаць месца ў чарзе.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*ЧЭКАВАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

# ...Пасля двухгадовага перапынку

***На мінулым тыдні ў Мінску адбыўся чарговы чэкавы аўкцыён для ўсіх суб'ектаў прыватызацыі. Нагадаем, што гэты аўкцыён стаў першай ластаўкай для СІФаў на працягу апошніх двух гадоў.***

*У аўкцыёне прынялі ўдзел 20 юрыдычных асоб, уладальнікаў спецыяльных чэкавых рахункаў. Дзевяць з іх — спецыялізаваныя інвестыцыйныя фонды, 8 — фінансавыя кампаніі і 3 — акцыянерныя камерцыйныя банкі.*

*На продаж у аўкцыёне прапанаваліся 1.359.995 акцый 50-ці акцыянерных таварыстваў, агульная пачатковая цана якіх у чэках «Маёмасць» склала 10,2 млн. штук.*

Па словах намесніка старшыні камітэта па размеркаванню акцый Міндзяржмаёмасці Пятра Лук'янава, аўкцыён прайшоў паспяхова. У выніку таргоў было прададзена 936.226 акцый за 7 мільёнаў 883 тысячы чэкаў. У сярэднім акцыі былі прададзены па цане, якая перавышала пачатковы кошт болей чым у 1,3 раза. Найбольшы попыт у ўдзельнікаў аўкцыёна мелі пакеты акцый акцыянерных таварыстваў «Жабінкаўскі камбікормавы завод», «Шчотка» (г. Мінск), «Буддэталі» (г. Вілейка), «Пухавіцкі камбінат хлебапрадуктаў», (г. М. Горка), «Клецкі камбікормавы завод», «Аўтабаза» (г. Заслаўль). Акцыі Клецкага камбікормавага завода былі прададзены па цане ў 9,6 раза вышэйшай за пачатковы кошт, а каштоўныя паперы Мінскага прадпрыемства «Шчотка» ў выніку таргоў падскочылі аж у 11,6 раза.

У той жа час акцыі 6 акцыянерных таварыстваў, такіх як «Пінсксаўгасбуд», «Будаўнічы трэст № 33» (г. Кобрын), «Орша», «Завод прыбораў аўтаматычнага кантролю» (г. Орша), «Мазырскі завод зборнага жалезабетону № 12», «Будаўніча-мантажны трэст № 29» (г. Жодзіна) наогул ніхто не купіў, нават па пачатковай цане.

Якія вывады па гэтых выніках можна рабіць ужо сёння? Па-першае, у сучасны момант у краіне зарэгістраваны, а значыць дзейнічаюць 23 спецінвестфонды. Прымалі ўдзел у аўкцыёне толькі 9. Чаму? Пётр Лук'янаў лічыць, што большасць дробных СІФаў яшчэ раней прадалі свае пакеты акцый буйным СІФам ці фінансавым кампаніям. Акрамя таго, СІФы перад пачаткам таргоў павінны былі прадаставіць аўкцыённай камісіі дэкларацыі на тую колькасць чэкаў, якія будуць выкарыстоўвацца пры пакупцы акцый. Калі дэкларацыі няма, тады такім СІФам лепш не «свяціцца» на аўкцыёнах. Паводле слоў спадара Лук'янава, ёсць яшчэ адна прычына, чаму ў аўкцыёне прымала ўдзел невялікая колькасць пакупнікоў. Большасць прыватызаваных прадпрыемстваў не адлічваюць сродкі з прыбытку на выплату дывідэндаў, а накіроўваюць іх на рэканструкцыю і развіццё вытворчага патэнцыялу акцыянернага таварыства. І ўвогуле, многія прадпрыемствы працуюць зараз даволі нестабільна і купляць іхнія акцыі бывае проста рызыкоўна.

На жаль, гэта сапраўды так. У выніку аўкцыён не зацікавіў як замежных інвестараў, так і фізічных асоб, якія мелі магчымасць прымаць удзел у таргах.

Найбольш актыўную пазіцыю меў на аўкцыёне Першы рэспубліканскі інвестыцыйны фонд. Ім было скуплена акцый на суму каля 5 млн. чэкаў. Другім буйным пакупніком стаў СІФ «Белмежкамінвест» (849100 чэкаў), трэцім — камерцыйны банк «НОВОКОМ» (856550 чэкаў).

Аценіўшы станоўчыя вынікі чэкавага аўкцыёна, спецыялісты Міндзяржмаёмасці ізноў «ірвуцца» ў бой. Наступны аўкцыён яны збіраюцца правесці ўжо ў верасні—кастрычніку гэтага года. На канец жніўня запланаваны грашовы аўкцыён, але ўжо сёння арганізатары гэтага першынца лічаць, што магчыма ён будзе «правалены». Справа ў тым, што ўжо першапачатковы кошт акцый складае даволі вялікія грошы. Калі сёння акцыі са скрыпам абменьваюцца на чэкі, то дзе знайсці тых, хто купіць іх за грошы? У Міндзяржмаёмасці амаль не вераць у такі цуд, але чамусьці спадзяюцца на лепшае.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# З НАСТАЎНІКАМІ РАЗЛІЧЫЛІСЯ. ПРЫНАМСІ, ЗА ЧЭРВЕНЬ

Сітуацыя з запазычанасцю па выплаце настаўніцкіх заробкаў часова нармалізавалася. Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» загадчык аддзела абароны эканамічных інтарэсаў прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Валянціна Гняздзілава, па стану на 28 ліпеня даўгі па заработнай плаце педагогам выплачаны.

Самая трывожная сітуацыя была апошнім часам на Магілёўшчыне (запазычанасць яшчэ нядаўна тут складала 25 мільярдаў рублёў), аднак, дзякуючы накіраваным у рэгіён мэтавым крэдытам са сродкаў рэспубліканскага бюджэту, усе грошы былі выплачаны.

Гродзеншчына разлічылася з настаўнікамі за кошт уласных рэзерваў.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# ЯНЫ — ДОМА!

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Калі кантракты заключаліся не праз нейкія падстаўныя фірмы, тады, зразумела, можна паспрабаваць нешта спагнаць.

Жонкі верталётчыкаў, вядома, ужо ведалі пра вяртанне мужоў. Таму мы найперш павіншавалі іх з гэтай вялікай радасцю, а потым пацікавіліся, якія планы яны будуюць на бліжэйшую будучыню. **Зоя Міхайлаўна Кулькова**: «Васіль такі чалавек, у якога ніколі не было ворагаў, а тут такое выпрабаванне для яго і ўсіх нас... Мы вельмі рады яго вяртанню. Чым муж будзе займацца? Няхай спачатку адпачне. А потым — у нас свой дом, работа заўсёды знойдзецца. Ці будзе муж яшчэ лятаць? Я думаю, што не, хаця ўвогуле гэта ён павінен вырашаць сам».

**Антаніна Аляксандраўна Мартыновіч**: «Якія планы? Няхай адпачывае, я сама буду працаваць».

Мы патэлефанавалі ў Яраслаўль жонцы камандзіра экіпажа Аляксандра Сапожнікава — **Таццяне Вадзімаўне**. Хацелі даведацца, калі муж будзе дома, як нечакана высветлілася, што ён ужо прыехаў.

— У пятніцу раніцай мы яго сустрэлі. Самалёт крыху спазніўся, муж прыляцеў каля 7 гадзін раніцы. Дзякуй за віншаванні і за тое, што праяўлялі трывогу да ўсіх нашых мужоў у Беларусі. Дарэчы, можаце самі пагаварыць з Аляксандрам...

— Аляксандр Паўлавіч, прывітанне, віншую вас з вяртаннем дамоў. Як сябе адчуваеце, што збіраецеся рабіць? Магчыма, хутка наведаеце Мінск?

— Дзякуй, усё нармальна. Спачатку трэба крыху адпачыць, а ў Мінск паеду не раней, чым праз тыдзень. У нас тут гора — некалькі тыдняў таму памерла маці маёй жонкі. Хутка саракавіны... А ўвогуле я жывы, здаровы, дома ўжо.

— Лятаць яшчэ будзеце?

— Няма дакументаў, усё засталося там.

— Дзе вы былі ўвесь гэты час? Чаму вас і іншых не адпусцілі раней — мы чакалі экіпаж напрыканцы ліпеня?

— Адразу пасля путча мы трапілі ў Нігерыю. Там нас увесь час і трымалі. Апошнія 5,5 месяцаў абяцалі адпусціць кожны дзень, але потым гаварылі: не сёння, не зараз. Апошні раз сказалі, што едзем у расійскае пасольства, але завезлі з Нігерыі ў сталіцу С'ера-Леоне Фрытаун і яшчэ тыдзень пратрымалі ў турме. Праўда, не білі, не каталі.

— Як там увогуле?

— Тры гады таму ўсё, вядома, бачылася лепшым. А зараз... Там вайна, людзі церпяць і пакутуюць ні за што...

У пятніцу вечарам цягнік з трыма членамі экіпажа: Васілём Кульковым, Іванам Мартыновічам і Уладзімірам Чэпелем будзе на вакзале ў Мінску. Кулькова ў сталіцы сустрэнуць пляменнікі, Мартыновіча будуць чакаць на вакзале ў Баранавічах. Часу ў верталётчыкаў будзе няшмат, бо ім трэба будзе з цягніка перасаджвацца на адыходзячую электрычку. І тым не менш мы паспрабуем сустрэць экіпаж, каб павіншаваць з вяртаннем дамоў і задаць некалькі пытанняў. Спадзяёмся, у будучым мы зможам сустрэцца з усімі членамі беларускага экіпажа і напісаць гісторыю іх знаходжання ў Афрыцы. Пакуль жа мы вязём для іх цёплыя словы ад жонак і наш «звяздоўскі» сюрпрыз.

**Сяргей РАСОЛЬКА**

*ДАТЫ*

# ПРАВА НА ПОГЛЯД

**Заўтра, 9 жніўня, «Звяздзе» спаўняецца 81 год. Даўно няма сярод нас тых, хто задумваў газету, хто быў яе першым рэдактарам і чытачом, хто разносіў яе па франтавых траншэях у першую сусветную вайну... Аднак гэтая дата — 9 жніўня 1917 года — па-ранейшаму аб'ядноўвае ўсе пакаленні многіх соцень журналістаў, якім наканавана было прайсці праз школу «Звязды».**

У сённяшняй газеце мала агульнага са сваёй далёкай папярэдніцай узору 1917 года. Заснавальнік «Звязды» — бальшавіцкія дзеячы Заходняга фронту А. Мяснікоў, М. Фрунзе, К. Ландар, В. Кнорын, В. Фамін — глядзелі на Беларусь як на частку будучай Расійскай савецкай рэспублікі, як на пярэдні край блізкай сусветнай рэвалюцыі.

У той няпэўны міжрэвалюцыйны час нават у раздзеленай фронтам Беларусі ўзнікалі дзесяткі разнастайных газет. Аднак ні адна з іх, за выключэннем «Звязды», не здолела перажыць выпрабаванні рэвалюцыяй, акупацыямі і грамадзянскай вайной. Відавочна: тыя ідэі, праваднікам якіх была тагачасная «Звязда», трапілі на спрыяльную глебу, былі запатрабаваны ў грамадстве. Іншыя газеты, праіснаваўшы некалькі месяцаў, закрываліся. А «Звязда» ўпарта чаплялася за жыццё, перабіраючыся з акупіраванага немцамі Мінска ў Смаленск, потым выходзячы ў Вільні як галоўная газета недаўгавечнай Літоўска-Беларускай ССР, пазней — зноў перабраўшыся ў Смаленск, калі Мінск быў захоплены польскімі войскамі.

За гэтыя восем дзесяткаў гадоў «Звязда» разам з краінай перажыла ўсе крутыя павароты гісторыі. Наракаць на яе партыйнае мінулае гэтак жа бессэнсоўна, як адмаўляцца ад уласнага савецкага пашпарта. Тым больш, што нават у тым мінулым, якое многім сёння здаецца змрочным, у «Звязды» было нямала дастойных старонак. Варта згадаць хоць бы тое, што ў жніўні 1927 года, пасля дзесяці гадоў выдання на рускай мове, «Звязда» стала беларускамоўнай. І з тае пары па сённяшні дзень нават у самых неспрыяльных умовах заставалася асяродкам беларушчыны, абаронцай мовы.

«Звязда» была адзінай з нацыянальных газет, якая здолела нелегальна выдавацца у гады фашысцкай акупацыі, спачатку — у акупіраваным Мінску, а потым — у любанскіх лясах.

У 1989—91 гадах, калі рушылася аднапартыйная сістэма і прыходзіў у занепад увесь савецкі лад, перад «Звяздой», як і перад усімі іншымі газетамі, паўстала праблема выбару — з кім ісці далей.

У савецкія часы «Звязду» называлі беларускай «Праўдой». Пасля 1991 года шляхі «Звязды» і «Праўды» кардынальна разышліся.

У 90-х гадах «Звязда» страціла фармальны статус галоўнай афіцыйнай газеты. «Звязда» да свайго новага месца ставіцца спакойна. Для яе пачаўся і працягваецца новы перыяд гісторыі.

Шаноўны ўзрост дазваляе глядзець на многія рэчы і з'явы як бы з боку, з вышыні пражытага. Месца «Звязды» ў сённяшняй сістэме беларускіх сродкаў масавай інфармацыі вызначаецца не фармальным статусам, а гісторыяй і пазіцыяй газеты. «Звязда» не мае патрэбы ў самасцвярджэнні — яна даўно стала адным з сімвалаў грамадскага і палітычнага жыцця краіны — хаця б у сілу сваёй гісторыі. І хочацца верыць, яна заслужыла права глядзець на падзеі, якія адбываюцца наўкол, разважліва і памяркоўна, без празмернага захаплення і нянавісці, з прыкідкай на будучыню, з одумам і цярплівасцю.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*З ПЕРШЫХ РУК*

## Уладзімір КУРНЕЎ:

# «ІДЭАЛ МІНСКАГА «ДЫНАМА» — СІНТЭЗ ГУЛЬНІ МАСКОЎСКАГА «СПАРТАКА» І КІЕЎСКАГА «ДЫНАМА»

***Ліхалецце для футбалістаў мінскага «Дынама» (зараз «Дынама-Мінск»), здаецца, засталося за спіной. Перайшоўшы пад апеку Мінгарвыканкама і сузаснавальнікаў, каманда паціху пачынае «распрамляць крылы» і, што галоўнае, пачынае паказваць гульню (цьфу-цьфу-цьфу, каб не сурочыць).***

***Каб даведацца аб апошніх падзеях у дынамаўскім «лагеры», карэспандэнт «Звязды» звярнуўся непасрэдна да галоўнага трэнера «Дынама-Мінск» Уладзіміра КУРНЕВА.***

**— Уладзімір Барысавіч, вы, калі так можна сказаць, узяліся ратаваць «тонучы карабель».**

— Гэта будзе крыху недакладна. Проста гэтак атрымалася, што калі былы галоўны трэнер «Дынама» Анатоль Байдачны паехаў трэніраваць сочынскую «Жамчужыну», я быў адным з яго асістэнтаў, і кіраўніцтва клуба даручыла мне выконваць функцыі галоўнага. І ўжо потым пачалася ўсім нам сумнавядомая завіруха.

**— Пачалі разбягацца ігракі...**

— Ну, а як іх затрымаеш? Тым жа, хто застаўся, проста не хапае вопыту.

**— Вы хочаце сказаць, што вярнуліся б у каманду два вопытныя ігракі — напрыклад, Аляксандр Мятліцкі і Сяргей Гурэнка — і «Дынама» можна было б выцягнуць з сярэдзіны табліцы, больш дастойна і бліскуча згуляць са «Сконта»?**

— Я ўпэўнены, што можна. А калі б вярнуліся нават мінулагоднія чэмпіёны: Лаўрык, Макоўскія, Лухвіч, Яскевіч, дык лічу, што з імі рэальна было б вырашаць нават сур'ёзныя задачы.

**— Фінансаванне каманды крыху палепшылася?**

— Абстаноўка стабілізуецца. Ігракі атрымалі першыя выплаты, і я ўпэўнены, што ў бліжэйшы час усё стане на свае месцы, а зарплата будзе пастаяннай.

**— Настрой футбалістаў?**

— Лепшы, чым быў месяц-два назад. Прыйшло новае кіраўніцтва, пагаварылі з кожным футбалістам наконт далейшых планаў, кантрактаў. З настроем усё ў парадку, але вы разумеце, што каманду немагчыма стварыць за 1-2 месяцы, і я думаю, што калі вы трохі пацерпіце, то потым убачыце тое «Дынама», якім яно было заўсёды ў лепшыя гады. Усё ж такі «Дынама» ёсць «Дынама», яно павінна быць лепшай камандай у рэспубліцы і дзеля гэтага зараз ствараюцца ўсе ўмовы.

**— Як кажуць, парадак б'е клас. Дысцыпліна ў камандзе — рэч неабходная, аднак даводзілася чуць, што ігракі нене ды і «наступалі на корак». Вы строга караеце парушальнікаў?**

— Дагэтуль хлопцаў не было як караць, бо сем месяцаў ім не плацілі. Тое ж, што я не ставіў кагосьці на гульню ў пачатку сезона — вымушаны крок, каб падтрымаць нейкае падабенства парадку. А ўвогуле, я лічу, што калі асноўны ігрок парушае дысцыпліну, яго трэба жорстка пакараць, бо ён у першую чаргу прыклад для астатніх. Але зараз, упэўнены, ні да каго санкцыі прымяняць не прыйдзецца, бо футбалісты ведаюць, што за сваю працу яны атрымліваюць грошы.

**— Як паказала гульня з «Тарпеда», у вас добры рэзерв. Адкуль маладыя хлопцы і чаму вы паставілі ў адной гульні адразу трох навічкоў?**

— Вяцёлкін, Азаронак, Дзенісеня і Белавусаў нядаўна прыйшлі з «Дынама-Юні», Марчанка — з «Дынама-93», запрасілі з 2-й лігі Шушкевіча. Патрэбна было ўносіць свежае паветра, таму што ёсць футбалісты, якія нас не задавальняюць, перспектыўная моладзь — гэта канкурэнцыя і добры стымул праявіць сябе.

**— Гуляць у «Дынама» сёння — гэта прэстыжна?**

— Думаю, так. Нават хлопцы, якія пайшлі з каманды, зараз шкадуюць аб гэтым. Яны проста перасталі верыць кіраўніцтву, але сёння, я думаю, гэта не паўтарылася б.

**— Якой вы бачыце сваю каманду гады гэтак праз два?**

— Хацелася б знайсці сінтэз разумнай і тэхнічнай спартакаўскай гульні з моцам кіеўскага «Дынама». У ідэале была б цудоўная каманда.

**Андрэй ГУЖВІЙ.**




*Яны вераць у зорную гадзіну мінскага «Дынама».*

# СПАДЗЯВАННІ І РАСЧАРАВАННІ АДНАГО ПЕНСІЯНЕРА

Яшчэ задоўга да пенсіі Мікалай Салевіч вырашыў, што, як толькі настане доўгачаканы адпачынак, то адразу ж з'едзе з горада на вёску і застанецца жыць у бацькавай хаце.

І калі гэты дзень настаў, Мікалай Віктаравіч без шкадавання пакінуў назаўсёды завод аўтаматычных ліній.

Жонцы да пенсіі заставалася яшчэ пяць гадоў і яна катэгарычна адмовілася ехаць на вёску, хаця муж маляваў даволі пастаральную карціну.

— Пасадзім бульбу, будзем трымаць пару япрукоў, куры, яйкі — усё сваё. Вуллі ад бацькі засталіся. А за бутэльку агарод зааруць і забарануюць...

* * *

На пенсію Салевіч пайшоў у сакавіку і літаральна праз некалькі дзён, накупіўшы цвікоў, з'ехаў за 50 кіламетраў у радавое гняздо.

Навёў парадак у хаце, прапаліў добра печку, забраў ад суседзяў падушкі ды коўдры і ўзяўся за справу.

Падправіў плот і ўзяўся рамантаваць вуллі. У пчолах Мікалай Віктаравіч разбіраўся слаба. Пры бацьку аднойчы заглянуў у вулей ды некалькі разоў памог з дрэва рой зняць. Вось і ўся навука. І тут надзея была на літаратуру па пчалярству. Кнігі і брашуры стосам ляжалі на стале.

Салевіч усё разлічыў наперад. У гэтым годзе завядзе пчолаў у пяці вуллях, а трыццаць сотак засее грэчкай. І тут двайная выгада. Пчолам раздолле будзе, з вулля і адразу на грэчку, а восенню мяшкоў колькі грэцкіх круп набярэцца. А гэта для сям'і важкі прыбавак. Праз год пчолаў будзе ўдвая больш.

Яшчэ снег ляжаў між кустоў, а вуллі ўжо стаялі ў садзе, праз чатыры метры адзін ад аднаго, леткамі на ўсход, як у кніжцы было напісана. У маі заглянуў да пчаляра з суседняй вёскі і купіў тры адводкі пчол. І адразу ж павесялеў сад, бо пчала ў садзе — гэта жыццё. Адчула перамены і жонка, якая кожную суботу прыязджала да мужа.

— Можа штосьці талковае і будзе, — адзначыла яна, хаця да планаў мужа адносілася скептычна.

А затым надышоў час сеяць грэчку і тут Салевіча чакала першае расчараванне. За бутэльку гарэлкі ніхто не хацеў араць яго соткі. Нават каня не далі. Конюх выпіць хацеў, але баяўся брыгадзіра, а той, з маладых, і слухаць не захацеў. Аплаці ў канторы за кожную сотку і прыходзь на канюшню, займі чаргу. Коней мала, жадаючых — многа.

У канторы настрой пенсіянеру сапсавалі канчаткова. У вёсцы яму сказалі, што за сотку трэба плаціць 15 тысяч, а ў бухгалтэрыі растлумачылі папулярна, што гэта ў тым выпадку, калі каня бярэ калгаснік, а ўсе дачнікі і прыйшлыя — па сорак. Давялося аддаць амаль усю пенсію.

Плуг узяў у аднаго суседа, барану ў другога і пайшоў на канюшню. Раней, у дзяцінстве, як і ўсе хлапчукі, Мікалай Віктаравіч не злазіў з коней. Бывала, так азадак натрэ на худой спіне калгаснага каня, што тыдзень хадзіў раздзіракай, а тут на каня залезці не здолеў. Узабраўся толькі з воза, ды і то з дзесятай спробы. А пакуль ехаў да хаты, то падалося, што ўсё нутро растрасецца. Тады падумалася, што проста адвык вярхом ездзіць. Вядома ж, гадоў сорак пяць на кані не сядзеў. А калі заараў соткі, то адчуў, што не можа разагнуцца — «скруціла» паясніцу. Паціху адвёў каня і на абочыне ўпаў у траву. Праляжаў каля гадзіны, затым прыкандыбаў да суседа і выпіў трохлітровы слоік кіслага малака.

Знаёмы доктар растлумачыў, што скруцілі яго ныркі і пра цяжкую работу трэба забыць. Але пра гэта ён даведаўся пазней, дзесьці праз паўгода.

Хаця не ўсё было і так сумна. У пустыя вуллі прыляцелі чужыя раі. Першы, як навальнічная хмара вісеў над вуллем, а праз дзень прыляцеў яшчэ адзін — меншы. А рой напачатку чэрвеня — гэта мёд.

Грэчка паднялася ў пояс і зацвіла. І гаспадар прымеціў, што над грэчкай пчолы не гудуць, а ляцяць за кіламетр на дзялянку. За час цвіцення ён не бачыў ніводнай пчолкі. І вычытаў Віктаравіч, што каб расліна выдзяляла нектар, трэба, каб прыпарвала. Толькі якая тут парнасць, за лета ніводнага дажджу не было.

Калі грэчка выспела, Салевіч адкапаў бацькаву касу і паклаў грэчку ў пракосы. Разаслаў на полі посцілкі, на іх кінуў два лісты прасаванага кардону, дастаў з-пад кроквы цэп і пачаў малаціць.

За тры дні намалаціў мяшок грэчкі. Зерне не налілося ўсё з-за той жа засухі. Здабытак нікчэмны, а рукі ад работы, як перабітыя, не падняць.

А тут аказалася, што абмалочаную грэчку есці не будзеш, трэба вырабіць яе на крупы, а зрабіць гэта могуць толькі ў горадзе. А як гэты мяшок зацягнуць туды? У аўтобусе, які ходзіць толькі па выхадных, нагі няма дзе паставіць.

Жонцы Мікалай Віктаравіч не сказаў, у якую суму абышоўся яму мяшок грэчкі, а паставіў на стол міску з мёдам. Праўда, разам з вашчынамі. Дастаў з мацнейшага вулля толькі адну рамку з мёдам, а купляць за 6 мільёнаў мёдагонку для адной рамкі не выходзіць, ды і грошай не было. Вось на наступны год, калі акрэпнуць пчолы...

Жонка смактала вашчыну і верыла, што неўзабаве мёду хопіць не толькі дачцэ з унукамі, але і прадаць удасца, бо з вулля кілаграмаў пад дзесяць узяць можна. Так гаварыў-разважаў муж.

З пчоламі ўсё праяснілася, а вось з япруком Салевіч вырашыў пачакаць, бо, прагарэўшы з грэчкай, ужо пачаў лічыць.

Купіць парася — адзін мільён. Пару мяшкоў мукі таксама трэба. Бульбы свіння пад тону з'есць, а кілаграм яе тысяч пяць каштуе, дробнай, вядома.

Ды і бульбу не выходзіла садзіць. За гной заплаціць неабходна з паўмільёна, за каня таксама і насенне для пасадкі купляць прыйдзецца. А галоўнае, хто за плугам хадзіць будзе? Вось каб як некалі за бутэльку, ды калгасным трактарам!

І вырашыў Віктаравіч заняцца садаводствам. Засадзіць участак чорнымі парэчкамі. Праз два гады ўжо і ўраджай дасць. Ды і ягада каштоўная, дарагая. Галоўнае, каб набыць ураджайны гатунак.

Пасля зімы пчолы засталіся толькі ў двух вуллях, у астатніх загінулі.

— А ліха яго ведае, — развёў рукамі пчаляр з суседняй вёскі, у якога з 12 пнёў пчолы перазімавалі толькі ў трох, — зараза нейкая ўбілася.

Салевіч падлічыў, што калі пастарацца, то на сотках можна размясціць каля тысячы кустоў чорных парэчак. Пазваніў у гадавальнік, пачуў колькі каштуе адзін саджанец і вырашыў купіць толькі сотню. Да гадавальніка 160 кіламетраў і вясковы хлопец за машыну запрасіў 700 тысяч. Маўляў, толькі на бензін 300 тысяч пойдзе. Прыйшлося пагадзіцца.

Парэчкі Віктаравіч пасадзіў пад рыдлёўку. Праз год прысыпле зямлёй, ад кожнага куста па некалькі галінак і плантацыя Беларускай салодкай будзе закладзена.

А пакуль чорныя парэчкі набіралі сілу, пенсіянер завёў трусоў. Хутка растуць, мяса далікатэснае і галоўнае ніякіх затрат. Трусы ядуць усё, акрамя лебяды. Ад лебяды здыхаюць. Праўда, пра гэта Мікалай Віктаравіч даведаўся, калі ўбачыў, што пародзістыя веліканы ляжаць у клетках, выцягнуўшы лапкі і жываты ў іх уздуліся. Хаця справа, можа, і не ў лебядзе, а ў нейкай там эпідэміі!

Ёсць у Віктаравіча яшчэ задумкі, але аднаму цяжкавата. Чакае, калі жонка на пенсію пойдзе. Разам будзе лягчэй і весялей.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*УСМЕШКА МАСТАКА*



*Нехта з артыстаў аднойчы сказаў: каб публіка цябе не забывала, трэба мець у рэпертуары хоць адну песню Ігара Крутога. Сапраўды, песні гэтага кампазітара ёсць у рэпертуары такіх зорных жанчын, як Ала Пугачова, Лайма Вайкуле, калі не ўзгадваць самую «крутую» спявачку Ірыну Алеграву. Але не аднымі песнямі жывы чалавек. Ігар Крутой сёння з'яўляецца адной з акул расійскага шоу-бізнесу.*



## Ігар КРУТОЙ:
# «Побач са мною будуць жыць Гарбачоў і Лігачоў»

**— Ці ўзгадваеце вы зараз у росквіце славы сваю працу ў калектыве Валянціны Талкуновай?**

— У сваёй творчай біяграфіі я іграў і акампаніраваў розную музыку. Я акампаніраваў пакойнаму Валодзі Мігулі, Лёні Смяттаннікаву — рамансы, Валянціне Талкуновай — рускія народныя песні. Іграў ва ўсіх танальнасцях для ўсіх нацыянальнасцяў. Зараз думаю, што гэта мне ў многім дапамагло: пераіграў шмат рознай музыкі: і ў рэстаранах, і на танцпляцоўках. Вопыт аказаўся карысным. А ў калектыве Талкуновай я дастаткова многа адпрацаваў — 6 гадоў. Гэта быў момант, калі існавала вялікая сцяна, каб некуды прабіцца. Мяне ўзялі на работу без маскоўскай прапіскі, у Масканцэрт, я атрымаў магчымасць выязджаць за мяжу з яе калектывам. Талкунова магла спакойна патрапіць да ўсіх міністраў, таму у нас не было ніякіх праблем. Першыя кантакты і першыя сувязі я атрымаў дзякуючы працы ў Талкуновай.

**— Як вы размяркоўваеце свае песні і ці няма спрэчак з-за іх паміж артыстамі?**

— Артысты песні перабіраюць, але боек паміж імі няма. Праўда, рэўнасць пэўная бывае, я зараз не буду гаварыць, у каго і да каго.

**— Колькі каштуе песня для зоркі?**

— Я не ствараю песень для невядомых выканаўцаў. А з вядомымі існуе дагавор. Я не атрымліваю грошай ад іх, але мы разам працуем над альбомам, потым здымаем усе выдаткі і падзяляем прыбытак папалам. Чым лепей запісаны альбом, тым даражэй ен прадаецца, тым болей мы зарабляем.

**— Якімі крытэрыямі ў адборы тэкстаў вы кіраваліся, калі пісалі песню для Алегравай «Все мы бабы стервы»?**

— Тэкст гэты прынёс Іры Сімон Асіашвілі, ёй спадабалася, я і напісаў музыку.

**— Ці натхняюць вас вершы на напісанне песень? Увогуле, для вас як для кампазітара ці патрэбны нейкі імпульс?**

— Магу прывесці прыклад Раймонда Паўлса ці Давіда Тухманава. Яны бралі ў рукі верш, сядалі за раяль і складалі песні. Сапраўдныя прафесіяналы. Я вельмі паважаю прафесіяналізм.

**—Яшчэ адна паэтка, на чые словы вы пісалі песні — Рыма Казакова— у інтэрв'ю апошнім часам не надта добра пра вас гаворыць. Чаму так атрымалася?**

— Сапраўды, лепшыя песні для Сашы Сярова я напісаў на яе вершы — «Мадонну», «Ты меня любишь». І для Алегравай была адна песня — «Безответная любовь». Дарэчы, ніколі не гаварыў, што менавіта я зрабіў Алеграву і Сярова. Гэта не так. Саша атрымаў перавагу за кошт таго, што я займаўся яго прадзюсіраваннем, я ў сваю чаргу выйграў ад таго, што ён рабіў мае песні. Мы падштурхнулі адзін аднаго. Алеграва ўвогуле да нашага супрацоўніцтва існавала як Алеграва. А на вершы Рымы Казаковай я не пісаў песень ўжо гадоў сем. І калі мы нядаўна сутыкнуліся на радыё, я спытаў, чаго яна ў прэсе наязжае на мяне. Яна адказала вельмі проста: рэклама патрэбна.

**— Вашы адносіны з Сяровым вычарпалі сябе?**

— У мяне быў творчы вечар у Амерыцы, на адной з самых прэстыжных пляцовак. Я за паўгода спытаў, ці будзе ён удзельнічаць, каб даць гэтае імя ў рэкламу. Ён адказаў, што прыедзе. А за дзень патэлефанаваў: не паеду. Ну і не трэба... Хоць ў той жа час ён спяваў у рэстаране «Нацыяналь» на Брайтан-біч.

**— Стас Намін пачаў рух за абарону «жывой» музыкі. Ваша стаўленне да выкарыстання артыстамі фанаграмы?**

— А якія адносіны мае зараз Стас Намін да музыкі? Я прынцыпова не супраць фанаграмы. Хаця аптымальны варыянт «мінус адзін», калі пяецца ўжывую, але такім чынам лепей перадаць аркестровае гучанне, асабліва пры тэлевізійных здымках. Як спяваюць артысты на канцэртах — гэта іх музычнае сумленне. Чым больш сумлення, тым менш фанаграмы.

**— Любы кампазітар, акрамя песень, імкнецца яшчэ да сур'ёзных спраў — праца над музыкай да кіно, тэатральных пастановак і іншых.**

— Я напісаў музыку да трох мастацкіх фільмаў. Але не скláліся адносіны з рэжысёрамі, яны мяне не дапускалі на мантаж музыкі да фільмаў. Мне гэта не спадабалася, я прыпыніў падобную працу.

**— Фірма «Арс» робіць на ГРТ праграму «Песня года». Не ўзнікае жаданне ў каго-небудзь паспрачацца з вамі за гэта права? Як вы адбіваецеся?**

— Кожны год прыходзіцца адбівацца — то Сярожа Лісоўскі хоча ўзяцца за «Песню года», то новая фірма «ГРТ-рэкардс» хоча забраць праект, і пачынаюцца розныя рухі ў гэтым накірунку. Адбіваемся звычайнымі метадамі: ўсе аўтарскія правы знаходзяцца ў фірме «Арс». Але прыходзіцца ездзіць па кабінетах, сустракацца з Лісоўскім, камусьці нешта тлумачыць.

**— Акрамя «арсаўскіх» артыстаў, у іншых таксама ёсць жаданне трапіць у фінал «Песні года». Напэўна, ад многіх, хто прапануе сябе ў якасці ўдзельнікаў, таксама прыходзіцца адбівацца?**

— «Арсаўскі» артыст — паняцце адноснае. Лайма Вайкуле, Валерый Лявонцьеў — не арсаўскія артысты, Пугачова, Кіркораў — тым больш не «арсаўскія». У Алегравай сапраўды працоўная кніжка ляжыць у фірме «Арс». Але каб не надакучвалі спевакі, якія вельмі хочуць трапіць у праграму, ёсць вельмі просты спосаб: выключаюцца ўсе тэлефоны, уключаецца мабільны.

**— Быў момант, калі ў праграме «Ранішняя пошта» удзельнічала папулярная беларуская тэлевядучая Ларыса Грыбалёва. Чаму вы прыпынілі гэтае супрацоўніцтва?**

— На цяперашні дзень фірма «Арс» не робіць «Ранішнюю пошту». Мы робім «Добрай раніцы, краіна!» на РТР. Так, за праграму, якую вяла Ларыса з Юрай Нікалаевым раней адказвалі мы. Потым гэты праект забрала ў нас «ГРТ-рэкардс». Так што не мы адмовіліся ад Ларысы. Ад нашых паслуг адмовіліся.

**— Вы чалавек не бедны. Напэўна, прыходзіцца сутыкацца з людзьмі, якім за спакой трэба плаціць грошы?**

— Калі сказаць, што я зусім не маю адносінаў з такімі людзьмі, то будзе няпраўда. Нечыя жонкі любяць песні, нечыя хочуць хадзіць на канцэрты. Кагосьці, натуральна, ведаю. Але ні капейкі грошай нікому не плаціў і не маю такога жадання. Магчыма, мне лягчэй у гэтым плане, бо я не чысты бізнесмен, яны да мяне адносяцца як да кампазітара, чалавека творчага. Пакуль у іх не ўзнікала ідэй прыходзіць да мяне і збіраць грошы.

**— Вы супрацоўнічаеце са многімі спявачкамі. Ці няма ў вашай маладой прыгожай жонкі пажаданняў у адрас гэтых спявачак?**

— Па-першае, яна не такая ўжо і маладая, ёй 35 гадоў, проста яна добра выглядае. А па-другое, нават калі і з'яўлялася ў яе жаданне кагосьці абмеркаваць, то яно тут жа спынялася. Цяпер ўвогуле не з'яўляецца.

**— Пра першую жонку, маці вашага сына, вы ніколі не гаворыце ў інтэрв'ю, хоць яна не апошні чалавек на Радыё Расіі.**

— А што гаварыць? Гэта адзіная жанчына, якая мяне пакінула ў гэтым жыцці. Болей такога не здаралася.

**— У якую кватэру вы прывялі новую жонку? І дзе яна зараз знаходзіцца?**

— Пасля жаніцьбы напісаў пісьмо Юрыю Міхайлавічу Лужкову — «хачу трохпакаёвую кватэру», ўсё ж такі я заслужаны артыст Расіі. Жонка зараз у Амерыцы. Пакуль ідзе рамонт, я жыву у старой кватэры. Але новая цікавая перш за ўсе суседзямі. Побач са мною будуць жыць Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў і Ягор Кузьміч Лігачоў.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК.**

---

*АСАБІСТАЕ*

# «ПАД ЦЯЖАРАМ ПАЗНАННЯ І СУМНЕННЯ...»

КАЛІ ДОМА збіраемся мы ўтрох — я, маці і старэйшая сястра, праз некалькі гадзін пачынаецца ідэйная вайна. Так бы мовіць, тыповы сюжэт «бацькі і дзеці» ў сучасным выкананні. Нетыповасць яго выяўляецца толькі ў адным: «дзяцей» прадстаўляю адна я. Сястра ж нязменна ў спрэчках (а спрэчкі ў нас звычайна ідэйна-палітычныя) прымае бок маці, нягледзячы на тое, што ва ўзросце са мной розніца ў яе значна меншая. Яны, ва унісон уздыхаючы, успамінаюць кожны раз былыя савецкія часы, калі давалі дармавыя кватэры, грошай хапала да наступнай зарплаты, а каўбаса каштавала два дваццаць. Я ж, даводзячы ім (а мо і сабе адначасова?), што і цяпер жыць не нашмат горш (а што цікавей, дык тое бясспрэчна), заслугоўваю прозвішча то «нацыяналісткі», то «нігілісткі», і, прыгнечаная важкімі аргументамі як то: маме нельга хвалявацца, а сястра ўпартая ў сваёй настальгічнай упэўненасці, выходжу ў іншы пакой, пакуль не ўтаймуюцца страсці. Часам толькі чую, як маці кажа сястры: «Што ты хочаш, яна — іншае пакаленне...»

Але — дзіва! я слухаю сваю пляменніцу, якая маладзейшая на нейкія няпоўныя сем гадоў (выходзіць ужо з ёй-та мы адно пакаленне), і вельмі шмат чаго не разумею ў яе мэтах, памкненнях, думках. Занадта шмат для семнаццаці годоў прагматызму і халоднага разліку...

Паразуменне я знаходжу толькі са сваімі равеснікамі, ну яшчэ на год, усяго на год, старэйшымі ці маладзейшымі. Нас і пакаленнем не назавеш — занадта вузкія і строгія ўзроставыя рамкі. І ўсё ж час і абставіны зрабілі нас іменна асобным Пакаленнем. Мы — невялікая кагорта, якая аб'ядноўвае, хочуць яны таго ці не, усіх, каму сёння 23—25 і каму пашчасціла і не пашанцавала нарадзіцца ў сярэдзіне 70-ых на гэтай зямлі.

* * *

Сёння мы жартуем: «Спасибо товарищу Брежневу за наше счастливое детство». Так, дзяцінства наша сапраўды было шчаслівым. Мы ведалі, што жывём у самай лепшай у свеце краіне. Мы насілі на грудзях маленькія чырвоныя зорачкі з выявай Валодзі Ульянава. Мы елі танныя цукеркі і насілі кніжкі ў цыратовых ранцах змрочных колераў самай лепшай у свеце савецкай вытворчасці.

Я памятаю, як мы з сяброўкай румзалі, калі трэцякласнікаў прымалі ў піянеры, бо нам, першакласнікам, да гэтага шчасця заставалася яшчэ два гады. Як атрымала добрага прачуханца ад маці за тое, што ўсю сцяну абклеіла выразанымі з газеты «Правда» карыкатурамі ненавіснага ўсім нам амерыканца — дзядзечкі Сэма. Як замірала, а потым заходзілася ад шчасця маленькае яшчэ сэрца, калі гучаў на якіх-небудзь спаборніцтвах гімн і ўздымаўся сцяг маёй вялікай краіны. Як, яшчэ не ведаючы, кім буду па прафесіі, цвёрда склала для сябе схему: спачатку ў піянеры, потым у камсамол, пасля — абавязкова ў партыю. Што будзе іменна так — не ўзнікала ніякіх сумненняў...

* * *

Наша дзяцінства скончылася разам з эпохай застою. У восемдзесят пятым нам было па 11—13 гадоў. Узрост, калі ўпершыню пачынаеш адчуваць сваю дарослаcць і значнасць у гэтым свеце, калі пачынаеш асэнсоўваць і па-сапраўднаму ўспрымаць тыя ідэалы і нормы, якія выхаваннем убіваюць у дзіцячыя мазгі дарослыя. І іменна ў гэты час аказалася, што бацькі нашы жылі няправільна, што настаўнікі нашы гаварылі нярэдка зусім не тое, што думалі. Мы здзіўлена назіралі, як на тварах дарослых пачалі нязвыкла часта мяняцца выразы — ад радасна-ўзрушанага да разгублена-прыгнечанага. І слова «перабудова» не палохала нас так, як іх.

Мы, падлеткі, былі, бадай, адзіныя ў вялізнай дзяржаве, хто свядома прыняў перелом у краіне без сумненняў, хто сапраўды паверыў у тое, што жыць можна смялей і лепш. Мы ўжо не елі танных цукерак — іх не стала зусім. Але мы з захапленнем, як нашы «нармальныя» равеснікі прыгодніцкі фільм, глядзелі «Пражэктар перабудовы». Мы да дзірак, як найцікавейшыя раманы, зачытвалі тоненькія дадаткі да падручнікаў гісторыі, якія тэрмінова выпусціла міністэрства адукацыі. Мы даведаліся, што была «халодная вайна», і што нарэшце яна скончылася, і радаваліся, як могуць радавацца толькі дзеці, бо знікла небяспека, што дзядзечка Сэм у любы момант можа націснуць на кнопку і да нас прыляціць страшная ядзерная смерць.

Я памятаю, як на камсамольскі сход аднакласнікі ішлі як на цікавае шоу — паслухаць, як спрачаюцца, абараняючы правы вучняў і настаўнікаў, парторг і камсорг. Як на школьным савеце мы, старшакласнікі ў яго абраныя, нароўні з настаўнікамі вырашалі гаспадарчыя і вучэбныя пытанні. Як дарослыя здзіўляліся, калі мае равеснікі задавалі такія нязвыклыя пытанні: «Чаму я павінен пісаць заяву ў камсамол, калі я не хачу ўступаць?..» Як, паставіўшы каля сябе радыё, слухала з вялізнай цікавасцю прамыя трансляцыі пасяджэнняў нашага і саюзнага парламента... А калі гучаў гімн — сэрца зноў заходзілася гордасцю — гордасцю за свабодную вялікую краіну, у якой хутка стане добра і прывольна жыць...

* * *

Нам было па 16—18, калі гэтая самая краіна раптам увачавідкі развалілася, як картачны домік. Мае равеснікі здавалі ўступныя экзамены пры Саюзе, а на першую лекцыю пайшлі ў незалежнай Беларусі. Дарослыя ўспрынялі гэту незалежнасць недаверліва — для іх яна была перш за ўсё талонамі на прадукты і звальненнем з работы з-за скарачэння.

Школьнікі сярэдніх класаў мелі ўжо не той вопыт узнёслага ўспрымання рэчаіснасці (яны не помнілі Леаніда Ільіча, не елі танных цукерах і не вучылі на памяць вершыкі пра Леніна). Мы зноў аказаліся тымі, хто ўспрыняў чарговую перамену з найбольшым энтузіязмам і верай. Мы пілі чай з крапівы і куплялі чаравікі не тыя, якія падабаліся, а тыя, якія з'явіліся на прылаўку. Але мы, першакурснікі журфака, памяталі, што сказаў у першай прамове дэкан, і жылі гэтымі словамі: «Вы новае пакаленне, вы будзеце працаваць дзеля нашай Беларусі, вы зможаце пісаць і гаварыць толькі тое, што загадвае вам сумленне, а не ідэалагічны кіраўнік». Мы бачылі, як падняла галаву наша мова, і нават тыя з нас, хто адносіўся да яе з пагардай, пачалі прыслухоўвацца і вывучаць, бо верылі, што іменна на ёй ім давядзецца гаварыць са сваімі дзецьмі, якія народзяцца ў гэтай краіне і будуць вучыцца ў яе школах.

Я памятаю, мы з сяброўкамі часта збіраліся вечарам ля інтэрнацкага акна і глядзелі на дом урада. Там спачатку павесілі бела-чырвона-белы сцяг, потым Пагоню. Для каго як, а для нас, васемнаццацігадовых, яны былі сімвалам новага жыцця і новай роднай краіны, нашай краіны, якую будзем будаваць мы, маладыя.

* * *

Пасля рэферэндуму 95-га зноў нешта зламалася. Краіна, праўда, засталася, але рухнуў яшчэ адзін ідэал, у які мы, як ніхто іншы, верылі. Стварыць сабе новую ілюзію аб светлай будучыні? Мы ўжо занадта выраслі. За свае няпоўныя дваццаць пяць мы свядома пражылі некалькі эпох. І цяпер мы такія, якія ёсць — нігілісты, нацыяналісты, пацыфісты, цынікі... Мы ўжо — прагматыкі, як нашы малодшыя. Жыццё робіць нас такімі.



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

Мае знаёмыя, равеснікі, нядаўна пажаніліся. Абое працуюць у Мінску, жывуць у маленькім пакойчыку інтэрната. Вядома, хочуць пабудаваць сваё жыллё. Здавалася б, проста: маладая сям'я, льготны крэдыт палажаны. Аказваецца, асадзі назад. Каб стаць на чаргу — трэба мець пяць гадоў пастаяннай прапіскі (пяць гадоў падчас вучобы ва універсітэце не ўлічваюцца). Ім зараз па дваццаць пяць. Прапісаны ў Мінску два гады. Праз тры гады паставяць на чаргу — ім па дваццаць восем. Чарга рухаецца вельмі марудна — не сакрэт. А ў трыццаць год чалавек страчвае статус «малады чалавек» — чытай: права на льготны крэдыт...

Старэйшыя атрымалі жыллё пры Саюзе або паспелі ўступіць у будаўнічыя таварыствы напачатку 90-ых. У маладзейшых ёсць надзея дачакацца зменаў у крэдытнай палітыцы. Мы зноў — асобная катэгорыя. Хаця тым маім знаёмым можна паехаць у маленькі райцэнтр і пабудаваць там кватэру за два гады. Але чаму яны, таленавітыя, якія робяць сваю справу лепш за многіх, павінны некуды з'язджаць?

Можна, канешне, стаць «чаўнакамі», і, пацягаўшы на ўласным гарбе вялізныя сумкі, купіць праз гады тры тыя няшчасныя метры. Але яны любяць сваю работу і ўсё яшчэ вераць, што, каб жыць прыстойна ў грашовым плане, чалавек проста павінен сумленна рабіць сваю справу. У душы мы — ідэалісты. Як нашы бацькі.

* * *

Таму не патрабуйце, каб мы ў нешта ці некаму паверылі — занадта багаты і горкі ў нас вопыт. І не спрабуйце парушыць ідэалы, якія ў некага з нас усё ж ёсць, — яны, створаныя ўласным сумленнем і свядомасцю, з цяжкасцю выбраныя з вялізнай кучы друзу, якую за наша яшчэ вельмі кароткае жыццё накідаў на нас час.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

**P. S. А назва ўзята з верша М. Ю. Лермантава «Дума»:**

*Печально я гляжу на наше поколенье!*
*Его грядущее — иль пусто, иль темно.*
*Меж тем, под бременем познанья и сомненья*
*В бездействии состарится оно...*

Паэту, дарэчы, было 24 гады, калі ён пісаў гэтыя радкі.

**«Мама! Купі хамячка!» Упэўнены, што такія словы даводзілася чуць кожнаму, хто хоць раз штурхаўся ля прылаўка якога-небудзь з заамагазінаў. Атрад грызуноў, да якога належыць мноства хатніх жывёл такіх, як марскія свінкі, хамячкі, белыя і каляровыя мышы і пацукі, пражывае побач з чалавекам. Праўда, спачатку гэтыя жывёлы жылі выключна як паразіты і захрыбетнікі, перабіваючыся тым, што кралі са склепаў і свірнаў. Толькі потым, ужо ў гістарычны час, некаторыя з грызуноў былі прыручаны чалавекам. Лічыцца што звычайных свірнавых пацукоў і мышэй прыручылі алхімікі, вельмі ж былі зручныя гэтыя жывёлы для розных доследаў і эксперыментаў.**



ПЛАНЕТА ЖЫВЁЛ

# ГРЫЗУНЫ — БІЗНЕС ПІЯНЕРАЎ І ПЕНСІЯНЕРАЎ

У НАШ ЧАС асноўных пакупнікоў (рука не падымаецца напісаць «спажыўцоў») грызуноў можна падзяліць на наступныя катэгорыі: 1. Тыя, хто купляе парачку ці адну жывёліну для сваіх дзяцей; 2. Набываюць грызуноў (як правіла самых танных) у якасці пажывы для іншых хатніх пітомцаў: драпежных птушак, млекакормячых і рэптылій; 3. Спажыўцы, якія выкарыстоўваюць герояў нашага сённяшняга аповеду як паддоследных жывёл; 4. Тыя, хто разводзіць і прадае грызуноў для забеспячэння ўсіх вышэйназваных катэгорый; 5. Так званыя «фанаты», прасцей кажучы — захопленыя людзі, хобі якіх — экзатычныя грызуны. Іх любімцы не мышы і хамячкі, а радкія жывёлы, якія ў прыродзе сустракаюцца не вельмі часта: бамбукавыя пацукі, дзікабразы, капібары і многія іншыя.

Набыць грызуноў на любы густ можна не толькі ў заамагазіне, але і на рынках практычна любога з нашых гарадоў, прычым, прадаюць гэтых жывёл, як правіла, людзі пенсійнага ўзросту і школьнікі, якія разводзяць іх ледзь ці не ў прамысловых маштабах, што, калі ўлічыць цану на адзін экземпляр (хамякі і пацукі каля двух долараў, марскія свінкі — даражэй, а мышы — танней), складае значны давесак да пенсіі.

Існуе такое псіхалагічнае паняцце «цялесны кантакт». Пад ім падразумяваецца генетычна закладзеная ў большасці млекакормячых і ў значнай ступені часткі птушак (чалавек, дарэчы, тут таксама не выключэнне) неабходнасць не толькі ў зносінах з да сябе падобнымі, але і ва ўзаемных дакрананнях. Таму аматарам пагладзіць, памацаць варта завесці менавіта млекакормячую жывёлу: шчаня ці каценя, а пры недахопе жыццёвай прасторы лепшага кампаньёна, чым грызун, не знайсці.

## ХАМЯЧКІ

Не трэба блытаць мініяцюрных хамячкоў: сірыйскіх, джунгарскіх, даўгахвостых і яшчэ вельмі многіх іншых з хамякамі. Хамяк звычайны ў прыродзе жыве на вялікай прасторы Еўразіі. Гэта вялікая, даволі агрэсіўная, неахайная і да таго ж дрэнна пахнучая жывёла наўрад ці зможа стаць сябрам вашага дзіцяці і прыемным хатнім гадаванцам. Ну а хамячкоў многія, асабліва дзеці, лічаць надзвычай сімпатычнымі. Утрымліваць хамячкоў нескладана, з самага ранняга ўзросту звярок добра прывыкае да дзіцяці, якое яго дагледае і звычайна не праяўляе прымет агрэсіі. Аднак, калі ў вашай кватэры паявіўся ўжо дарослы звярок, то верагоднасць таго, што ён паладзіць з людзьмі, вельмі невялікая. Галоўнае, бадай, правіла догляду гэтых жывёл — не перакормліваць. Сыты хамячок пачынае набіваць свае зашчочныя мяшкі рэшткамі корму і наладжвае ў кутках клеткі «склады» правіянту, якія неабходна перыядычна ачышчаць, таму што пры клеткавым утрыманні жывёла, пазбаўленая прасторы для прагулак, хутка тлусцее і хутчэй за ўсё гіне.

Для пары хамячкоў дастаткова мець клетку з плошчай дна — 50х40 см. У якасці падсціркі неабходна выкарыстаць адсарбіруючыя матэрыялы: пілавінне ці напаўняльнікі для каціных туалетаў. Варыянт з газетай, нягледзячы на тое, што ён з'яўляецца самым папулярным, малапрымальны — вельмі ўжо «пахнуць» гэтыя жывёлы ды і друкарская фарба на карысць нікому не ішла. Па прычыне паху не варта таксама утрымліваць гэтых грызуноў у шкляных слоіках ці старых шарападобных акварыумах. Каля іх адтулін хамяковы «водар» настолькі канцэнтруецца, што перанесці іх зможа толькі чалавек з вельмі моцнай нервовай сістэмай. З гэтымі жывёламі абыходзіцца трэба даволі асцярожна з-за таго, што хамячкі — жыхары скрытай прасторы — зусім не ведаюць, што такое вышыня. Нават падзенне з журнальнага століка можа закончыцца трагічна. Пракармліць хамячкоў проста, яны з задавальненнем ядуць злакі, агародніну, садавіну, зяленіва і амаль усё, што ім прапануеце. Сачыце за тым, каб у клетцы заўсёды была вада.

## МЫШЫ

Часцей за ўсё ў хатніх умовах утрымліваюць каляровых, а таксама так званых «танцуючых» мышэй. Першыя ўяўляюць сабой звычайных «свірнавых» мышэй, колеравыя варыяцыі якіх выведзены чалавекам штучна. «Танцуючыя» мышы таксама выведзены шляхам селекцыі і адбору, асноўная іх асаблівасць заключаецца ў тым, што яны раптам без усякай прычыны пачынаюць круціцца на адным месцы. Асноўны недахоп мышэй у доме — іх рэзкі пах, які многія зусім не пераносяць. Утрымліваюць мышэй гэта жа, як і хамячкоў, з той толькі розніцай, што іх клетку трэба абсталяваць рознымі палачкамі і кладачкамі. Мышы непераўзыйдзеныя «скалалазы».

## ПАЦУКІ

Адамашнены шэры пацук даў цэлую гаму колеравых варыяцый: тут і чорныя, і белыя, і жоўтыя, і двухколерныя, і нават «блакітныя» жывёлы. Пацук трывала ўтрымлівае пальму першынства сярод усіх хатніх грызуноў як самы кемлівы звярок, яго інтэлектуальныя здольнасці дагэтуль здзіўляюць не толькі аматараў, але і вучоных. Пацук, у адрозненне ад большасці дробнай хатняй жыўнасці умее па-сапраўднаму сябраваць, што так важна для дзяцей, і прагулкі на плячы ў свайго маленькага гаспадара дастаўляюць яму вялікае задавальненне. Але трэба адзначыць, што «інтэлект» пацука ў поўнай меры раскрываецца толькі пры адзіночным яго ўтрыманні. У гэтым выпадку навакольных людзей пацук успрымае як членаў сваёй зграі.

Утрымліваюць пацукоў гэтак жа як і мышэй, праўда, клеткі ім патрэбны крыху большыя. Адной з пераваг гэтай жывёлы перад мышамі і хамячкамі з'яўляецца практычна поўная адсутнасць паху пры рэгулярнай уборцы. І яшчэ. У адрозненне ад астатніх грызуноў, прыкладна 60 працэнтаў пацуковага рацыёну павінны складаць бялковыя кармы: адваранае мяса, рыба, тварог, сыр і да т. п.

## МАРСКІЯ СВІНКІ

Вельмі мілая і зручная для хатняга ўтрымання жывёла. Нягледзячы на сваю назву, да мора і вады ўвогуле не мае зусім ніякіх адносін, таму купаць свінку катэгарычна не рэкамендуецца, гэта можа прывесці да розных захворванняў, а лячыць грызуноў вельмі складана. Свінкі даволі «гаваркія», зрэшты іх ціхае мармытанне і пасвістванне наўрад ці змогуць каму-небудзь перашкодзіць. Клетка для ўтрымання марскіх свінак павінна адпавядаць тым жа патрабаванням, что і для пацукоў. Гэта вельмі далікатная жывёла, якая не церпіць ніякіх вольнасцяў. Трэба таксама памятаць, што падзенне нават з невялікай вышыні згубна для гэтага звярка. Яшчэ адной асаблівасцю вадасвінак (так іх яшчэ называюць) з'яўляецца тое, што яны ніколі не кусаюцца, што вельмі важна, калі іх дагледае дзіця. Кормяць іх зялёнай травой (зімой — сенам), агароднінай, садавінай і рознымі злакамі.

## ВАВЁРКІ І БУРУНДУКІ

Трымаюць гэтых звяркоў у аб'ёмных клетках, якія трэба аформіць як куток лесу, змясціўшы туды кавалак драўлянага ствала з сучкамі. Гэта вельмі актыўныя жывёлы, таму неабходна абавязкова прадугледзець бегавое кола, якое не дазволіць звяркам занядужаць ад гіпадынаміі і растлусцець. Акрамя таго вавёркам і бурундукам неабходна дуплянка, якую нескладана вырабіць з фанеры ці дошак. Яе вуглы пажадана абіць бляхай, каб яны не грызлі драўніну. Трэба памятаць, што вавёрка практычна ніколі не стане зусім ручной. Звычайна ўсе яе зносіны з чалавекам зводзяцца да таго, што жывёла (звычайна з вялікай галадухі) бярэ з далоні свайго гаспадара арэх ці пячэнне.

Як вавёркі, так і бурундукі робяць вялікія запасы харчавання «на чорны дзень», таму іх кладоўкі неабходна перыядычна ачышчаць. Ядуць яны ў асноўным тое, што і астатнія грызуны, з той толькі розніцай, што вавёрак і бурундукаў трэба перыядычна падкормліваць арэхамі (кедравымі, фундуком, арахісам і да т. п.), жалудамі, насеннем гарбуза і сланечніка.

Ласунак для іх — нераскрытыя яловыя і сасновыя шышкі. Гэтыя жывёлы, асабліва вавёркі, даволі агрэсіўныя і сваімі зубамі могуць нанесці значныя траўмы, таму зусім маленькім дзецям дагледаць іх не рэкамендуецца.

Акрамя ўпамянутых грызуноў у кватэрах часам утрымліваюць некалькі відаў суслікаў, тушканчыкаў, іголачных мышэй-малютак, суркоў, шыншыл і многіх іншых.

Трэба памятаць аб тым, што клеткі з дрэва, або нават проста з драўлянымі планкамі для ўтрымання грызуноў зусім не прыгодныя. Гэта ж датычыць і клетак з мяккага пластыку. Ідэальныя матэрыялы для вырабу клетак — метал і шкло.

Пры куплі жывёлы спачатку ўважліва яе агледзьце: вочы і нос павінны быць зусім чыстымі, без усякіх прыкмет слізі і коркі. Звярніце ўвагу на брушка звярка і яго сцёгны з унутранага боку. Калі заўважыце паразітаў: вошы, блохі, валасаеды і інш., то такую жывёлу лепш не браць.

**Арцём ХАНІН.**

36,6°

# ПАДСАЛІ СВАЁ ПРЭСНАЕ ЖЫЦЦЁ?

***Большасць з нас нават не падазрае, што на планеце цяпер палыхае сапраўдная сусветная вайна. У ёй прымаюць удзел тысячы людзей у розных краінах. Яна паглынае велізарную колькасць грошай, нерваў, сіл. Разгараюцца ж страсці не вакол блаславенных нафтаносных тэрыторый і зусім не на глебе рэлігійных веравызнанняў. Прычыны вайны — звычайная кухонная соль, па-навуковаму хларыд натрыю.***

Прыхільнікі здаровага ладу жыцця падлічылі, што сярэднестатыстычны зямлянін з'ядае солі ў два разы больш, чым належыць, — 9 грамаў у дзень. 80 працэнтаў «белай смерці» паступае ў яго арганізм не з сальнічкі, а разам з ежай — хлебам, каўбасой, кансервамі, сырам. Барацьбіты са шкодным белым парашком патрабуюць ад вытворцаў прадуктаў на трэць панізіць утрыманне солі ў сваіх вырабах, у адваротным выпадку прадказваючы чалавецтву марудную гібель у невыносных муках. Харчавікі ж, не жадаючы несці шматмільённыя расходы на рэарганізацыю вытворчасці, грудзьмі ўсталі на абарону хларыду натрыю, спрабуючы пераканаць спажыўцоў у яго абсалютнай бясшкоднасці і нават карыснасці.

З аднаго боку, зразумела, зусім без солі жыць немагчыма, яна неабходная для падтрымання воднага балансу ў арганізме і нармальнага функцыянавання мышцаў і нервовай сістэмы, а з другога — медыкі ўжо даўно б'юць трывогу, звязваючы празмернае ўжыванне самай распаўсюджанай прыправы з рознымі захворваннямі.

Паспрабуем жа разабрацца, хто мае рацыю і ці можа быць наогул пераможца ў гэтай спрэчцы.

## КРЫВЯНЫ ЦІСК

***Праціўнікі солі:***

— Большасць вучоных маюць адну думку, што соль для гіпертонікаў — сапраўдная атрута, якая павялічвае рызыку інфаркту і інсульту. А вось як яна ўплывае на людзей з нармальным ціскам, пакуль высветліць не ўдалося. Праўда, даследчыкі з арганізацыі «Інтэрсолт» сцвярджаюць, што даказалі прамую залежнасць паміж скарачэннем ужывання солі і зніжэннем крывянога ціску, якая асабліва выразна праяўляецца ў пажылых людзей.

***Абаронцы солі:***

— Вучоныя з амерыканскай медыцынскай асацыяцыі, тым не менш, абвяргаюць існаванне падобнай залежнасці. Паводле іх даных, арганізму здаровага чалавека ад бяссолевых дыет ні холадна, ні горача. Яны абследавалі некалькі тысяч чалавек, і толькі чвэрць негіпертонікаў неяк рэагавала на зніжэнне і павелічэнне паступлення «белай смерці» ва ўласны арганізм — прычым усім было далёка за 60. На думку амерыканскіх медыкаў, трэба не выключаць з рацыёна соль, а паклапаціцца, каб у ім было многа кальцыю, калію і магнію. Багатыя на іх садавіна, агародніна і малочныя прадукты больш паспяхова змагаюцца з гіпертаніяй, чым прэсная ежа.

## НАКАПЛЕННЕ ВАДКАСЦІ Ў АРГАНІЗМЕ

***Праціўнікі солі:***

— Лонданскі прафесар Грэхем МакГрэгар сцвярджае, што скарацiўшы спажыванне солі ўсяго толькі напалову, чалавек можа хутка і лёгка скінуць цэлых паўтара кілаграма — за кошт страты лішняй вады, што, праўда, важна ў першую чаргу не для жадаючых пахудзець, а для тых, хто пакутуе ад хваробы нырак, сэрца і жанчын, што цяжка пераносяць менструацыю.

***Абаронцы солі:***

— Згодна з даследаваннямі Нацыянальнага інстытута здароўя ЗША, крыху недасольваць ежу перад «крытычнымі днямі» сапраўды карысна, аднак значнае зніжэнне яе спажывання можа прывесці да адваротнага эфекту. Справа ў тым, што арганізм жанчыны напярэдадні менструацыі і так вызваляецца ад лішкаў хларыду натрыю і недахоп яго ў арганізме можа прывесці да галавакружэння і нават рэзка знізіць мысліцельныя здольнасці.

## АСТМА

***Праціўнікі солі:***

— Вучоныя даўно заўважылі сувязь паміж злоўжываннем кухоннай солі і смяротнасцю астматыкаў — мужчын і дзяцей. Для таго, каб праілюстраваць сваё адкрыццё, урачы бальніцы англійскага горада Лейчэстэра штодзённа давалі адной частцы пацыентаў таблеткі, якія ўтрымлівалі 11,5 грама солі, а другой — пілюлі-пустышкі, так званыя плацэба. Праз некаторы час медыкі з задавальненнем адзначылі рэзкае пагаршэнне стану першых і стабільны — у другіх.

***Абаронцы солі:***

— Між тым, паводле даных некаторых іншых даследчыкаў, соль калі і аказвае які-небудзь згубны ўплыў на арганізм астматыкаў, то ён настолькі нязначны, што не заслугоўвае нават каб пра яго ўпаміналі. Да таго ж нікому чамусьці не ўдалося даказаць сувязь паміж злоўжываннем соллю і астмай у жанчын.

## РАК СТРАЎНІКА

***Праціўнікі солі:***

— Вучоныя Міжнароднага агенцтва даследавання рака, размешчанага ў Францыі, сцвярджаюць, што людзі, якія маюць звычку, калі трэба і не трэба, трэсці сальніцай над сваёй талеркай, на 80 працэнтаў павялічваюць рызыку атрымаць грознае захворванне. А для чалавека, які ўжо пакутуе ад рака страўніка, празмернае спажыванне солі — верны спосаб наблізіць свой канец.

***Абаронцы солі:***

— Англійскі ўрач Джэфры Коўхен падвергнуў даследаванні французаў рэзкай крытыцы і абвінаваціў іх ледзь ці не ў падтасоўцы фактаў. Сапраўды, сярод хворых на рак страўніка высокі працэнт аматараў салёнай ежы. Але вінавацяць у іх захворванні трэба зусім не сам хларыд натрыю. Той, хто ласы да салёненькага, любіць, як правіла, вострае, вэнджанае, марынаванае, гэта значыць канцэрагеннае, і не надта кідаецца на свежыя садавіну і гародніну, якія адыгрываюць важнейшую ролю ў прафілактыцы рака страўніка...

**Ганна КУТУЗАВА.**
***«Мегаполис-Экспресс. Новости».***

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ

Летась, на пачатку мая, у гасцёўні Уладзіслава Галубка, што месціцца ў Траецкім прадмесці нашай сталіцы, адбывалася прэзентацыя мастацкай выставы «Славутыя постаці Беларусі». Грамадская культурна-асветніцкая суполка «Спадчына» Мінска экспанавала галерэю партрэтаў знакамітых людзей мінулага — дзеячаў культуры і навукі, князёў, удзельнікаў гістарычных падзей.

У зале сабраліся літаратары, мастакі, кампазітары, вучоныя, журналісты — усе тыя, хто дбайна даследуе і вывучае матэрыяльную і духоўную спадчыну беларусаў.

З цёплымі словамі і цікавымі аповедамі звярнуліся да прысутных дактары гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч, Леанід Лыч, Георгій Штыхаў, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Запрасілі выступіць Ігара Лучанка. Кампазітар падышоў да піяніна, маўкліва прысеў і зайграў.

Па зале паплылі гукі — гукі пяшчотныя, гукі шчымлівыя. Гучала музыка песні «Трэба дома бываць часцей». І раптам дзівосным бляскам заззялі партрэты, здавалася, ажылі намаляваныя на палотнах асобы і пачалі ўслухоўвацца...

Кампазітар зліўся з піяніна, іграў, ствараў напеўна-задумлівую музыку. І яна клікала прысутных да роздуму, да развагі. Узнікалі ў памяці радкі песні і напаўняліся новым зместам. Трэба не толькі наведваць родную сядзібу, прыязджаць на хутар, у вёску, мястэчка. Трэба быць на Беларусі, трэба жыць Беларуссю...

Верш «Трэба дома бываць часцей» Рыгор Барадулін напісаў яшчэ ў 1960 годзе. Пазней Ігар Лучанок паклаў яго на музыку. Песня знаходзіцца ў рэпертуары ансамбля «Сябры».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

ПАВОЛЬНА, ВЫРАЗНА
Трэ_ ба до_ ма бы_ваць час_
цей, трэ_ ба до_ ма бы_ваць не
гос_ цем, каб ду_ шо_ ю ты стаў чыс_
цей і не стра_ціў свя_ то_ е
1. 2.
штось_ ці.

**Верш Рыгора БАРАДУЛІНА**
**Музыка Ігара ЛУЧАНКА**

*Трэба дома бываць часцей,*
*Трэба дома бываць не госцем,*
*Каб душою ты стаў чысцей*
*І не страціў святое штосьці.*

*Помніць свой на іржышчы цень,*
*Не забыць, як завуць суседа.*
*Помніць, як сустракае дзень*
*За сяброўскім сталом бяседа.*

*Не забыць, як марозам злым*
*Клямка пальцы пячэ балюча*
*І адкуль на стале тваім*
*Бохан свежага хлеба пахучы.*

*Трэба дома бываць часцей,*
*Трэба дома бываць не госцем,*
*Каб душою ты стаў чысцей*
*І не страціў святое штосьці.*

*Трэба дома бываць часцей...*

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА




**Па гарызанталях:** 5. Дзеянне наўдачу з разлікам на шчаслівы вынік. 6. Унутраны бок кісці рукі. 9. Буйны зарад выбуховага рэчыва. 11. Задор, запал, захапленне. 12. Наўмысны зрыў работы або мерапрыемства. 15. Знешні абрыс прадмета. 16. Жаночая вопратка — кароткае прасторнае паліто. 17. Рад сумежных арак. 20. Частка арганізма, якая выконвае пэўную функцыю. 21. Спектакль з танцаў і мімічных рухаў, якія суправаджаюцца музыкай. 25. Набор слоў і выразаў, які, паводле ўяўлення, мае магічную, чарадзейную сілу. 26. Верхняя частка будынка. 27. Майстэрня мастака або скульптара. 31. Дадатковы, пабочны смак. 33. Бясколерная вадкасць у целе чалавека і пазваночных жывёл. 34. Ланцуг невысокіх гор, узгоркаў. 35. Невялікі кавалачак цвёрдага рэчыва. 36. Сцябло і лісце розных агародных культур.

**Па вертыкалях**: 1. Механічны сродак, з дапамогай якога прыводзіцца ў дзеянне іншы механізм. 2. Кавалак, абрэзак скуры. 3. Жорсткі ўладальнік, які не лічыцца з законам, з агульнапрынятымі правіламі. 4. У феадальнай Русі: правадыр вобласці і военачальнік у паходах. 7. Крытая конная павозка. 8. Часовае карыстанне ч.-н. маёмасцю за пэўную плату. 10. Кукурузны пачатак. 13. Дубовы лес. 14. Арганізаваная група музыкаў. 18. Задыякальнае сузор'е. 19. Вялікая пасудзіна для вадкасцей. 22. Зварот у кароткай, экспрэсіўнай форме. 23. Дакладна ўстаноўленая расцэнка тавараў, паслуг. 24. Доўгая фраза, якая вымаўляецца прыўзнятым тонам. 28. Пярэдні ніжні край сукенкі, кашулі. 29. Архітэктурна аформлены галоўны ўваход у вялікі будынак. 30. Галіна дзейнасці. 32. Старана геаметрычнага цела.

**Склаў Іван ХАБЯН.**

*Лідскі раён.*

# ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка-пераклад (1 жніўня). Па гарызанталях:** 5. Загад. 6. Бусел. 10. Павага. 11. Аматар. 13. Колер. 15. Краявід. 16. Гутарка. 19. Бурак. 21. Дадатак. 22. Лічба. 23. Прыклад. 24. Недахоп. 28. Чарга. 30. Акуляры. 31. Абцас. 35. Часопіс. 36. Парасон. 37. Ганарар. 39. Скнара. 40. Абутак. 41. Склад. 42. Рогат. **Па вертыкалях:** 1. Сакавік. 2. Карак. 3. Гумар. 4. Перапуд. 7. Паляна. 8. Малюнак. 9. Каралі. 12. Аркуш. 14. Скіба. 17. Запалка. 18. Паветра. 20. Крыга. 22. Лухта. 25. Ранак. 26. Клічнік. 27. Пакой. 29. Гронка. 32. Блазан. 33. Фіранка. 34. Рахунак. 37. Ганак. 38. Радок.

**Крыптаграма (1 жніўня).** Ключавыя словы ў ёй: хранометр, «Звязда», быт. Прымаўка зашыфравана такая: «Дзе няма ахвоты, там няма работы».

**Па кругу (1 жніўня).** Словы па радыусах: 1. Мандарын. 2. Лазер. 3. Габелен. 4. Канат. 5. Каляндра. 6. Домна. 7. Каланча. 8. Града. 9. Арэхаўка. 10. Кавун. 11. Калорыя. 12. Батут. 13. Гарызонт. 14. Метан. 15. Калаўрот. 16. Дамба. 17. Станіна. 18. Шляга. 19. Стамеска. 20. Сталь. 21. Вітрына. 22. Фланг. 23. Камбінат. 24. Проса. 25. Пратока. 26. Стыль. У выдзеленай акружнасці чытаецца прымаўка: «Дзе няма ахвоты, там няма работы».

Некаторыя ўважлівыя чытачы, напрыклад, Л. Яфстаф'еў з Маладзечна, паспелі даслаць адказы на заданні «Суботніх вечароў», з цікавасцю заўважыўшы, што ў двух з іх сустрэлася адна і тая ж прымаўка.

**Галаваломка (1 жніўня).** Першая лічба ў клетках абазначае нумар слова, другая — парадкавы нумар літары ў гэтым слове. «Не будзе таго ніколі, каб жылі мы ў няволі» — такая была зашыфравана прымаўка.

## *Віншаванні*

Любімую мамачку, **Лідзію Віктараўну ШАМШОРЫК** з в. Адрыжын віншуем з днём нараджэння. Здароўя табе, дарагая! Дай Бог нам яшчэ доўга прыязджаць у бацькоўскі дом.

**Дзеці і іх сем'і.**

Віншуем любімую дачушку **Ніну Антонаўну САЛУЙЧЫК** з в. Вулька-1 Лунінецкага раёна з днём нараджэння. Хай беражэ Бог цябе ад усялякіх бедаў!

**Сям'я Германовічаў.**

Віншуем з першай гадавінай сумеснага жыцця **Ніла Фёдаравіча і Ірыну Францаўну ЦАЛАГУЗАЎ** з в. Загорнае Клецкага раёна. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, весялосці і ўсяго самага найлепшага.

**Сям'я Макуценяў** *з в. Шастакі.*

Калектыў работнікаў *Пагосцкай СШ Салігорскага* раёна сардэчна віншуе настаўніцу **Галіну Мікалаеўну КЛЯЗОВІЧ** са знамянальнай падзеяй — днём уступлення ў шлюб.

Жадаем шчаслівага сямейнага жыцця ў любові і згодзе.

Віншуем з 55-годдзем **Марыю Сямёнаўну ЛОСІК** з в. Душава. Здароўя табе, мілая, блакітных, светлых дзён.

**Дочкі, зяць, унучка.**

Віншуем любага сына, мужа, зяця, тату **Мікалая Іванавіча ЯСЮЧЭНЮ** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, удачы.

**Мама, родныя,** *г. Слуцк.*

Дарагую **Святлану НАВУМОВІЧ** шчыра віншуем з 20-годдзем. Кахання, здароўя, шчасця і вечнай вясны жадаюць табе любячыя родныя з *Клецкага раёна.*

Ад усёй душы віншуем любімую матулю **Вольгу Мікалаеўну ВАСІЛЮК** з 35-годдзем. Жадаем радасці, шчасця і ўсяго самага найлепшага.

**Дзеці**, *г. Брэст.*

# ДЗЕВА ГУБЛЯЕ ЖЫЦЦЁВЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ, А СКАРПІЁН НАПАЎНЯЕЦЦА ПАЧУЦЦЁМ ПОЎНАГА ЗАДАВАЛЬНЕННЯ

## Усходні гараскоп на наступны тыдзень

КАЗЯРОГ даб'ецца большага, чым чакаў, прычым за кароткі час. Пры гэтым магчыма некаторая затрымка на афіцыйным узроўні. Бліжэй да 14 жніўня ўсё ўладкуецца. У панядзелак атрымаеце прыемныя звесткі наконт папаўнення фінансавых рэсурсаў. Верагодна, многія накіруюцца ў замежную паездку. Гэта можа стаць паваротным пунктам у вашай кар'еры ці асабістым жыцці.

ВАДАЛЕЙ можа аказацца ў паніцы з-за катастрафічна растучых расходаў. Не паддавайцеся кепскаму настрою, змяніце тактыку. Неўзабаве абставіны пераменяцца і вашы фонды зноў папоўняцца. На гэтым тыдні справамі лепш не займацца — займіцеся каханнем. Памятайце пры гэтым, што занадта лёгкія адносіны да секса пагражаюць душэўным апусташэннем.

РЫБАМ, занятым бізнесам, трэба пазбягаць фінансавых аперацый — вашы грошы могуць быць заблакіраваны на нявызначаны час. Служачы вернецца з камандзіроўкі з тоўстым кашальком. Калі юрысту ці эканамісту прапануюць перайсці ў больш буйную фірму, мяняйце работу без роздуму. Любоўна-эмацыянальны выбух можа разнесці вас на часткі.

АВЕНА паспрабуюць уцягнуць у разблытванне чужых праблем. Вам уласціва добрасардэчнасць, аднак трэба памятаць, што вас жа потым могуць і абвінаваціць ва ўсіх смяротных грахах. Вам дадзены ідэальны дзень для вырашэння ўсіх фінансавых праблем — гэта 12 жніўня. Тыдзень пройдзе пад знакам рамантычных прыгод. Мужоў і жонак, асабліва дам, ахоплівае неадольная спакуса адзюльтэру.

ЦЯЛЬЦА чакае наколькі мітуслівы, настолькі ж удачлівы тыдзень. Безумоўнае шанцаванне гарантуецца асобам ва ўзросце ад 30 да 40 гадоў. Разам з тым, на гэтым перыядзе бізнесмену трэба ўтрымацца ад буйных інвестыцый, іншым Цяльцам — ад якіх-небудзь буйных расходаў. У любой спрэчцы вы павінны ўзяць на сябе ініцыятыву прымірэння.

БЛІЗНЯТАМ давядзецца часова разлучыцца і напружваць сілы ў адзіночку. Канфігурацыя планет такая, што вас можа ненаўмысна падвесці нават самы надзейны партнёр. Працуйце на перспектыву. Здаецца, дама мае намер зрабіць учынак, які прымусіць засумнявацца ў тым, што ж такое жанчына — стварэнне Госпада ці вераломнае стварэнне адвечнага ворага роду чалавечага.

РАКА чакае ў асноўным работа з дакументамі. Нехта будзе рыхтаваць дзелавыя паперы, нехта візіраваць, нехта падпісваць. Умацуецца ваша рэпутацыя вопытнага прафесіянала. Магчыма нечаканае паступленне грошай. Служачы можа разлічваць на дадатковыя льготы. Многія накіруюцца хоць бы ў кароткае, але захапляючае падарожжа. Каханне «б'е ключом».

ІЛЬВУ часта давядзецца вытлумачвацца — перад шэфам, жонкай ці мужам, магчыма, і перад міліцыяй. Вы рызыкуеце прыняць паспешлівае імпульсіўнае рашэнне, якое выльецца ў масу замарочак. Не выключана, што нехта пачне вас «падседжваць». Муж і жонка, якія пасправаліся, і запальчывыя палюбоўнікі вырашаць часова расстацца. Разам з тым, разведзеныя знойдуць новых спадарожнікаў жыцця.

ДЗЕВА, здаецца, губляе галоўныя арыенціры. Поўная сумятня думак. Нечаканая перашкода ўносіць блытаніну ў бліжэйшыя планы. Не выключана вераломства з боку даўняга сябра ці партнёра. Нячысты пачне нашэптваць замужняй даме думкі аб салодкасці граху. «Моцны пол» рызыкуе занадта захапіцца пошукамі сумніўнай ісціны на дне келіха.

ШАЛІ будуць акружаны зайздроснікамі. Будзьце гатовыя да таго, што яны стануць падштурхоўваць вас на неабдуманы крок. Здаецца, вы праяўляеце неасцярожную шчырасць, якая выкарыстоўваецца ворагамі супраць вас жа. Ствараецца рэальная рызыка страціць работу. Да ўсяго гэтага могуць дадацца дамашнія непрыемнасці. Адносіны паміж мужам і жонкай азмрочаны ўзаемнымі папрокамі.

СКАРПІЁН напаўняецца пачуццём поўнай задаволенасці. Фінансавае становішча стабільнае, ваш высокі прафесіяналізм атрымлівае ўсеагульнае прызнанне. Многіх чакае захапляючая замежная паездка. Пакупка будзе ўдалай. Мілая дама, вам трэба ці спыніць адносіны з даўнім палюбоўнікам, ці абысціся з ім, як з гусарам: напаіць, звязаць — і пад вянец.

СТРАЛЬЦА чакае, па ўсёй верагоднасці, нялёгкі тыдзень. На рабоце магчымы незаслужаныя выпады шэфа. Не выключана, што будуць нечаканыя вялікія расходы. Былое ўзаемаразуменне ў сям'і знікае, быццам шклянка вады ў пяску пустыні. Галаўным болем могуць стаць дзеці. Трымайцеся, неўзабаве ўсе непрыемнасці мінуюць вас. Абавязкова апранайце што-небудзь аранжавае, чырвонае ці ружовае.

**Падрыхтаваў Сяргей БУЛАНЦАЎ.**

## *Post Factum*

## Гэты дзень у гісторы

● **У гэты дзень у 1068 годзе** ў Кіеве адбыліся масавыя выступленні гараджан, у выніку чаго быў вызвалены з затачэння полацкі князь Усяслаў Чарадзей, які на восем месяцаў заняў прастол вялікага князя кіеўскага.

● **8 жніўня 1786 года** «капітуляваў» найвышэйшы пік Еўропы — гара Манблан у Альпах — на яе вяршыню ўзышлі вясковы лекар Мішэль Пікар і ягоны слуга Жак Бальма.

● **8 жніўня 1815 года** Напалеон Банапарт быў сасланы на востраў св. Алены, дзе і правёў рэшту свайго жыцця.

● **У гэты дзень у 1849 годзе** амерыканец А. Маршал з горада Броктан (штат Мінесота) запатэнтаваў халадзільнік. Гарачае прывітанне хатнім гаспадыням!

● **8 жніўня 1900 года** ў Брукліне на пляцоўцы Лонгвудскага крыкетнага клуба пачаўся першы матч за Кубак Міжнароднай федэрацыі лаун-тэніса. Сам кубак быў падораны амерыканцам Дуайтам Дэвісам, дарэчы, членам зборнай ЗША, якая і перамагла ў першым матчы англічан — 3:0. Спаборніцтвы сталі называцца камандным першынствам за Кубак Дэвіса, або проста Кубкам Дэвіса.

● **8 жніўня 1919 года** польскія войскі амаль на год захапілі Мінск.

● **У гэты дзень у 1923 годзе** будучая легенда джаза Бені Гудмен пачаў прафесійную музычную кар'еру ў Чыкага ў якасці кларнетыста ў аркестры, які плаваў на параходзе па возеру Мічыган.

● **8 жніўня 1941 года** савецкая авіяцыя, якая базіравалася на астравах Хіумаа і Саарэмаа, зрабіла першы налёт на Берлін. 13 бамбардзіроўшчыкаў ДБ-3 авіяпалка пад камандаваннем Яўгена Прэабражэнскага скінулі на Берлін першыя бомбы. Затым было зроблена яшчэ дзевяць налётаў на сталіцу нацысцкай Германіі, пакуль Эстонія не была акупіравана фашыстамі.

● **8 жніўня 1945 года** Савецкі Саюз аб'явіў вайну Японіі.

● **У гэты дзень у 1963 годзе** ў Англіі адбыўся «грабеж стагоддзя»: злачынцы напалі на поезд і ўцяклі са здабычай з 2,6 мільёна фунтаў стэрлінгаў.

● **8 жніўня 1967 года** Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР газета «Звязда» была ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга.

● 8 **жніўня 1974 года** прэзідэнт Рычард Ніксан пайшоў у адстаўку пад пагрозай імпічменту ў сувязі з Уотэргейцкім скандалам.

## Цікава

***Брытанскія медыкі прыйшлі да высновы, што спробы рэзка кінуць курыць могуць прывесці да сумных вынікаў.***

Адпакутаўшы ўсяго паўдня без прывычнай цыгарэты, чалавек становіцца раздражняльным, мітуслівым і рассеяным. Ён не можа нармальна сканцэнтравацца ні на адной справе і наогул часам нагадвае сабой лунаціка, які не думае, што ён робіць і куды накіроўваецца.

Знаходзячыся ў такім вартым жалю стане, канторскі служачы можа пераблытаць лічбы і даты і наляпіць у паперах такіх памылак, з-за якіх яго неадкладна звольняць з працы. Вадзіцель, пакутуючы ад нікацінавага галадання, можа ўрэзацца ў слуп, а будаўнік — і наогул рухнуць з крокваў уніз і так і не спазнаць радасцяў здаровага ладу жыцця.

Што характэрна, большасць такіх выпадкаў адбываецца тады, калі адзначаецца Сусветны дзень адмовы ад курэння.

## Вось так

***Пакуль мы, наракаючы на сёлетняе даждлівае лета, усё яшчэ прыкідваем, дзе правесці яго апошнія дні, англічане ўжо вырашылі, дзе і з кім яны сустрэнуць... 2000 год.***

Так, юныя англічанкі хацелі б правесці гэтую чароўную ноч не з бацькамі і нават не са сваімі бойфрэндамі, а ў кампаніі са славутым пакуль Леанарда ДзіКапрыо. Іх мамы аддаюць перавагу Джэймсу Бонду — Шону Конэры. Жанчыны, праўда, змаглі знайсці яму і неблагую альтэрнатыву — іх задавальняе таксама Кліф Рычард — папулярны спявак і ў дадатак — член палаты лордаў.

Затое мужчынская палова аказалася не такой патрыятычнай — яны мараць атрымаць у кампанію амерыканку Кім Бэсінджэр. А вось выпіць пад навагодняй ёлкай з Маргарэт Тэтчар не пажадаў ніхто.

Большасць англічан марыць махнуць на Новы год у Аўстралію, ну а самыя практычныя імкнуцца трапіць у кругасветнае авіяпадарожжа, у час якога сустракаць свята яны будуць кожны раз у новым часовым поясе.

## І так бывае...

***Калі 47-гадовы Джордж Тамаселлі з Чыкага адчуў боль у грудзях, ён выклікаў урача. Той, вырашыўшы, што гэта інфаркт, прапанаваў неадкладна хворага шпіталізаваць.***

Вось тут і ўзніклі складанасці. Справа ў тым, што важыць Джордж 363 кілаграмы. Каб даставіць яго ў бальніцу, давялося выклікаць брыгаду пажарных і ўзяць у арэнду з заапарка... пад'ёмны кран, які звычайна выкарыстоўваюць пры транспарціроўцы сланоў. Па спецыяльна збудаванаму драўлянаму памосту хворага Джорджа выцягнулі электрычнай лябёдкай з яго кватэры на першым паверсе і кранам пагрузілі на грузавік.

Праз 7 гадзін напружанай работы спадара Тамаселлі даставілі ў бальніцу, дзе высветлілася, што яго самаадчуванне прыйшло ў норму. Джордж запатрабаваў вярнуць яго дамоў...

## Анекдот

*— І што гэта за жыццё?! Курыць нельга, піць нельга, кахаць нельга...*

*— Вы што, захварэлі?*

*— Не, ажаніўся.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай -- 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара -- 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага -- 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі -- 32-31-21, 68-29-68, палітыкі -- 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры -- 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў -- 68-27-47, маралі і права -- 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў -- 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў -- 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці -- 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі -- 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля -- 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне -- 33-25-29, Гомелі -- 53-13-92, Баранавічах -- 7-26-02, Магілёве --31-13-75, бухгалтэрыі -- 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах -- 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 4751.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12